...

я обнаруживаю себя в углу ярко освещённого помещения с белым потолком, белой кафельной плиткой выложены стены, пол – кроваво-красный. на полу труп женщины с головой петуха, её горло перерезано...

Я КОГОТЬ СМЕРТИ.

...открываю дверь и выхожу прочь из кафельной пыточной. сразу попадаю в огромный, сверкающий золотом, и зеркалами, и бархатом зал с высоким куполообразным потолком, расписанным фресками в духе ренессанса, а может, не ренессанса – нет времени приглядываться к мазне, потому что в зале полно женщин с петушиными головами – они истошно вопят – и мужчин с куриными головами, которые вооружены копьями и рапирами.

я оборачиваюсь собакой в этом «курятнике» и начинаю их всех душить. с таким упоением!



## RUDA MEITENE NO PLUDMALES[1]

Было гэта даўно, яшчэ ў тыя часы, калі прабабулі нашыя насілі каляровыя сукенкі, лёгкія й празрыстыя, нібыта сатканыя з павуціньня, якія вабілі сваім хараством і прыгажосьцю. Здарылася гэта яшчэ тады, калі нашыя прабабулі гутарылі на адзінай мове і насілі доўгія валасы, сплятаючы іх у калосьсе, а не хаваючы пад хусткамі. У тыя часы, калі нашыя прадзяды хадзілі роўна, ганарліва, хадзілі пехатою па брукаванцы й сьцяжынах, хадзілі ў мора па воблу й вімбу, па вецер і гонар, прымалі спаборніцтвы, змагаліся з прыродаю, пакаралі караблі.

А пачалося гэта так. Аднойчы маці ўзяла й падняла руку на сваю любую дачку. Любую, але ж ня надта. Дарагую, але ж ня так, як дорага ёй золата й тое, што пра яе скажуць суседзі. Маці як шалёная накінулася на роднае дзіця й адлупцавала яе за позьняе вяртаньне дадому. Што пра гэта скажуць суседзі! Што скажуць яны пра нейкія птушыныя яйкі, якія тая прынесла з сабой! Што скажуць пра парваную сукенку й чаек, накліканых ёй па дарозе! Што скажуць?! Што скажуць?! Што скажуць!?

Зьбіла маці дачку, як мачыха, ня гледзячы, куды трапляе скураным рамянём. Дзяўчо раўло й енчыла, скуголіла й спрабавала зьбегчы, прасіла аб міласьці й каханьні. Рудая дзяўчынка распавядала аб тым, што ратавала птушак, што сама потым ня ведала, дзе выхад з хвойнага лесу. Распавядала, што прадзіралася наўздагад, ажно пакуль ня выйшла на бераг мора, ажно пакуль

чайкі яе ня вывелі дамоў… Плакала дзяўчо, але потым прыціхла. З гэтым супакоілася і яе маці. Аслупянелая, яна кінула долу скураны рэмень, а сама на зэдлік цяжка асела, як не жывая й ня мёртвая.

Дзяўчына, валасы ў якой былі празрыста-рудыя, ускочыўшы з падлогі на ногі, выцерла рукавом сьлёзы, падцёрла кроў з расьсечанай шчакі й выскачыла з драўлянага дому на брукаванку й дала дзёру да Рынкавай плошчы. Праз кароткія, вузкія ielām[2] пабегла яна. І толькі вецер уварваўся празь дзьверы й марскі суворы скразьняк абдаў маці холадам, яна, выпусьціўшы зь левай рукі два птушыныя яйкі, цяжка дыхаючы, сядзела на зэдліку. Бацькаў ваенны рэмень, варожа й па зьмяінаму скруціўшыся, зьнерухомлены, ляжаў.

Рудая дзяўчына бегла празь цёмныя, сонныя, самотныя думкі, праз абураныя словы, праз усе адценьні адчуваньняў, праз злосьць… Бегла, куды пажадалі ногі. Праз колькі хвілін перад ёй стаялі старыя напаўзгнілыя драўляныя гадзіньнікі. Яны пахлі рыбай і вабілі гэтым водарам мясцовых чаек. Праз гэтую нагоду выгляд у іх быў брудны й даўно ўжо неістотны для ўспрыманьня. Дзяўчына абмінула іх і, прасьлізнуўшы пад змрочную лаўку, апынулася пад старым дубовым сталом, які быў неахайна прыкрыты самаробнаю страхою… Тут дзяўчо й засталося, захутаўшыся ў валасы й сукенку, грэючыся аб котку, якая, гуляючы па сваёй мясцовасьці, прытулілася да цёплай сьпіны… Гадзіньнікі кожны час выбівалі звонам гадзіны, але гэта ня мела перашкоды… Пакуль дзяўчына спала, да яе пасьпела прыжыцца ня толькі котка, але і самотная чайка з адным крылом, якая, зьвіўшы ў валасах гняздо, цяпер прыносіла з сабою рыбу ды ікру… Такім чынам, вяртацца дамоў дзяўчо не сьпяшалася й не зьбіралася.

Яна прыжылася на рынку, ёй падабалася тутэйшая брукаванка, жыхары, гандляры, ёй падабалася каляровае багацьце садавіны й гароднiны, пахі вэнджанага мяса й рыбы, мяккія ваўняныя тканіны, пледы й швэдары. Яна магла хуценька перасоўвацца праз выкладзеныя гандлярамі тавары, ласуючыся прывабнай ежай, крадучы што ёй трэба было, выносячы ў кішэньках чайкам рыбу, спутваючы свае валасы ў каўтуны, каб ім было лягчэй выходжваць птушыныя яйкі… І штораз, знайшоўшы кавалачак ежы, яна пакідала крыху ў валасах, дзеля кожнай жывой істоты, якой спатрэбіцца месца для жыцця.

Дзяўчыну ніхто не заўважаў, папросту яе прысутнасьць была відавочнаю й адчувальнаю, але ніхто не мог дакладна сказаць, што бачыў яе тут ці там. Маці, якая шукала сваю дачку колькі год, нарэсьце спынілася на тым, што тая прапала й таму завочна была пахаваная. Сябе яна не вінавація. Яна вінаваціла позьні час, стомлены стан, няўдалы лёс і брыдкія абставіны. Бо кожны чалавек здатны на тое, каб замест крытыкі ў свой бок, вінаваціць каго заўгодна. Жыцьцё працягвалася…

Аднойчы рудая дзяўчына закахалася ў аднаго хлопца, сына гандляра ваўнянымі тапкамі на рынку. Яна дакладна вырашыла, што зробіць зь ім сям'ю, што яны разам будуць гадаваць птушак, карміць жывёлак і што ў іх будзе тузін уласных дзяцей. Кожную раніцу яна прыносіла хлопцу хрызантэму, якую скрадала ў гандляра кветкамі, а потым пачала дадаваць да хрызантэмы бутон каляровай капусткі, якая буяла па ўсім партовым горадзе й расла як пустазельле. Хлопец быў зацікаўлены й лічыў, што гэтыя кветкі каханьня яму носіць дачка гандляркі рыбаю, якая была ў росквіце гадоў і сваімі формамі распальвала усіх маладых гандляроў на рынку.

Хлопец пачаў прачынацца неверагодна шчасьлівым, абласканым сонейкам і сваімі каляровымі снамі. Кожную ноч дзяўчына пачала прыходзіць да яго й спаць побач, а птушкі аддавалі сваё пер'е, каб сны былі мяккімі й бязважкімі.

---

1 *З латвійскай мовы – Рудое дзяўчо з пляжа.*
2 *З латвійскай мовы – вуліцы.*

Аднойчы сын гандляра ваўнянымі тапкамі пракраўся ноччу да дачкі гандляркі рыбаю, прапанаваў ёй зьбегчы разам з гораду ці краіны. Бегчы на любым грузавым караблі, які раніцою мусіць выправіцца ў порт ЮАР, Шатляндыю, Лацінскую Амэрыку альбо Сібір. Ці то з каменным вуглём ехаць, ці то яшчэ з чым – не істотна, галоўнае – зьбегчы, бо ягоны бацька мае дамову са сваім сябрам, гандляром мяса, каб той аддаў за яго дачку, страшэнна непрыгожую, саплівую й касавокую! Рашэньне аб уцёку было прынята.

Наступнай раніцай рудая дзяўчына не знайшла свайго каханага. Той самай раніцай чайкі распавялі ёй, што ён зьбег зь іншай… Яна кінула на брукаванку хрызантэму й пайшла да пляжа, зь якога было бачна, як праз маяк, з бухты выплываюць у адкрытае мора караблі… Яна ступала, і за ёй цягнуліся ўскудлачаныя брудныя валасы, якія сталі прытулкам для птушак й кузюрак, кавалкаў хлебу, рыбы й вэнджаных кіўбас. Сьледам ляцелі вялікія чайкі, памерамі з ад'етых катоў, а сукенка, вытканая з вудзільнай сеткі, вяла за сабой строй катоў й сабак, пацукоў й вожыкаў… Усе яны жудасна крычалі, гаўкалі й шыпелі, звалі хлопца зваротна, звалі шчасце, якое не ажыцьцявілася, звалі цьмяную любоў. А дзяўчына ўсё йшла й толькі адрывала па валаску са сваіх доўгіх пасмаў і кідала іх долу, сплятала зь іх ніткі, уплятала павуціньне й траву, мовіла, што хутка накорміць мора… Дайшоўшы да пляжа, яна зірнула ўдалечыню. На хвалях пляскаўся вялізны карабель, але, праплыўшы яшчэ колькі хвілін, ён пачаў крэніцца ўбок… і павольна пайшоў на дно.

З тое пары гэтае дзяўчо кожны дзень выходзіць на pludmali[3] і лічыць, колькі нагружаных суднаў выходзіць з порта. Калі за гадзіну назьбіраецца дзесяць караблёў, яны спакайнютка плывуць да сваіх месцаў прыбыцьця. Але тыя судны, якія не ўвашлі ў лік, часта трапляюць у штормы, губляюць сваіх маракоў і прыходзяць ня ў тыя порты. Бывае так, што яны апынаюцца парожнімі, а маракі – шалёнымі й прапахлымі ня морам, але хрызантэмамі. Таму капітаны караблёў, як пачуюць жудасныя крыкі шматлікай колькасьці чаек і зьвяр'я на пляжы, адразу сьпяшаюцца выйсьці з порту, выплываючы й прамаўляючы "Paldies Dievam!"[4]. Але кажуць, што цяпер гэтыя гукі сталі зусім рэдкімі, мо' яны аслаблі ад крыўды й пустога каханьня, а мо' згубілі на тое веру.

Маці дзяўчыны ўжо даўно памерла ад гора, бо цела ейнай зьнерухомленай дачкі так і стаяла перад вачыма, так і ляжалі на падлозе расплюшчаныя вакол яйкі, белае й жоўтае, жоўтае й белае.

Толькі рудое дзяўчо нічога пра гэта ня ведае, проста ходзіць часам з рынку на пляж дзеля сваёй справы.

*Кастрычнік 2012*
*Вэнтспілс*

[3] *З латвійскай мовы – пляж.*
[4] *З латвійскай мовы – Дзякуй Богу!*

# ВАНІТЫ

Калі вочы – люстэрка душы,
то скруха – дзверы, якія вядуць унутр.

0.6

Гарохавы суп ўяўляў сабою адзіны велізарны камяк падсмажанай цыбулі, парэзанай квадратнымі кавалачкамі, з брыдкімі, быццам мыла, шматочкамі падсмажанага сала. І толькі пасля гэтых двух асноўных элемэнтаў у супе распазнаваўся гарох ды маленечкае крылца куры.

Яму адзінаццаць, бацька як заўжды прымушае есьці нейкую атруту, быццам жадае ягонай сьмерці, а можа, і ўсяго ягонага пакаленьня. Яму ніколі ня лезе ў рот сьняданак, асабліва калі насупраць сядзіць бацька, стары ды пэрманэнтна злосны на жыцьцё праз татальную нявыкрутку, злосны на ўвесь сьвет за жыцьцё, пражытае дарма, за сына-недарэку…

– Еш, бляць, а то я сваімі рукамі ўвалью табе гэты пракляты суп, – ляснуўшы па стале валасатаю рукою, залямантаваў бацька; жонка, у сваю чаргу, зыркнула на яго так, быццам хацела забіць ушчэнт за словы “пракляты суп”.

А ён усё адно сядзеў ды, ціхенька плачучы, выкалупваў пальцамі зь супу цыбулю ды зьбіраў у склізкую купку ля талеркі.

– Не хачу, не хачу, не хачу, – усхліпваў ён, – я не магу есьці гэтую атруту! Не магу! Не труціце мяне!

– ЕШ!

– Дык тут адно смажанае сала ды цыбуля-а-а… – заскуголіў ён, адчуваючы, як у горле фармуецца склізкі камяк, як сліна гоніцца ў рот, як застрае гэтая ежа ў горле, нават не даходзячы да страўніка…

Можа, бацька насамрэч жадае атруціць сваё дзіця?

– Жары! Маць тваю! Дзеля чаго я столькі часу працую, для каго гэтая ежа гатуецца?! Еш! Інакш!.. – ён спыніўся, увесь чырвоны, узмакрэлы.

Можа, бацька быў такі злосны не на яго, хутчэй за ўсё ён быў злосны на ўвесь сьвет, і шмат за што: грошай няма, кватэру здымае ўжо каторы год, жонка зрабілася тоўстай ды атупелай, сын і той ня можа есьці тое, што яна гатуе.

І ён нечакана званітаваў. Страўнік выкінуў ежу кароткай шчыльнай плыняй назад у гарохавы суп, расплёскаўшыся карычнева-жоўтымі кроплямі па ўсім стале, асеўшы тут і там – дзе на хлеб, дзе на відэлец, келіх, бутэльку малака ды на мяса з бульбай у маянэзна-сьмятанным соўсе ў цэнтры стала… Некалькі кропляў трапілі бацьку на твар, а адна, густая, з кавалачкам цыбулі, павісла ў яго на барадзе.

Ён так спужаўся, што амаль страціў прытомнасьць.

Бацька ўскочыў з крэсла й залямантаваў, з жахам у левым воку ды злосьцю ў правым, што нават па нясучай сьцяне за ягонай сьпінай пайшла расколіна.

Яго аддубасілі рамянём, што ён мог ляжаць толькі на жываце ў сваім цёмным пакоі. Мяккае месца палала. Было балюча, але балюча фізычна, маральна ён атрымаў асалоду з аднаго выгляду бацькі з ванітамі на твары. Ён быў шчасьлівы ды задаволены сваім учынкам. Ён нарэшце адпомсьціў.

Вядома, задавальненьне прыйшло не адразу… Толькі пасьля пакараньня ён зразумеў, што адпомсьціў сваімі ванітамі за ўсе тыя разы, калі бацька прымушаў яго даядаць.

Ён ляжаў на жываце ў сваім цёмным пакоі ды ўсьміхаўся. Было балюча, але ён заснуў з задаволенай усьмешкай на вуснах.

0.5

Яму ня вельмі падабаецца хадзіць у школу, таму што яго адразу цягне ў прыбіральню. Нейкім магічным чынам яго цягне схадзіць па-вялікаму. Аднойчы ён пачытаў Фройда і

вырашыў для сябе, што гэта ягонае пэрсанальнае несьвядомае ўспрыманьне школы – фэкальна-аральнае, так зазначыў ён, Даніла Лаканаў, для сабе дадзеную зьяву.

Кожны дзень ён бачыць адных і тых жа істотаў, панурыя твары, часам зь лёгкімі ўсьмешкамі, улюбёныя вочы, вочы нянавісьці, і яго адразу цягне ў прыбіральню альбо проста ванітаваць.

Ён ня есьць супы ні ў якім выпадку, ні зь якімі інгрэдыентамі, ні ў якім іншым выглядзе…

Данілу шаснаццаць, ён вельмі любіць чорны ды зялёны колеры, шпацыраваць па горадзе, сачыць за суседкай, якой амаль дваццаць гадоў і якая кожным ранкам гуляе са сваім сабакам – фокстэр'ерам. Суседка любіць сушы ды сабакаў, а менавіта сушы з сырам “Філядэльфія”, а сабакаў – чорных, зь белымі плямамі. Ён яшчэ год таму набыў фотаапарат, паўпрафэсійны Nikon зь двума высакаякаснымі аб'ектывамі, усяго за 899$, даволі танна, як зазначыў ён для сябе. Цяпер ён кожны раз спрабуе злавіць суседку ў аб'ектыў.

Аднойчы, вандруючы па горадзе, ён злавіў у свой фоцік нейкае дзіця на арэлях, якое гайдаў у розныя бакі бацька, ён іх сфатаграфаваў ды адправіў на Рэспубліканскі конкурс маладых фотамастакоў. Празь месяц ён даведаўся, што заняў першае месца, ды якім чынам!

Куратар конкурсу Рыгор Рыгоравіч як пабачыў гэты здымак, седзячы за сваім велізарным сталом, закіданым паперамі ды кнігамі, тэхнічнымі прыладамі, фатаздымкамі, ды аб'ектывамі ды яшчэ шмат чым патрэбна-непатрэбным, ледзь ня страціў прытомнасьць. Ён убачыў увесь велізарны сусьвет на гэтай паперцы фарматам А4, яму хацелася сьмяяцца ды плакаць адначасова… Эмоцыі ўзрушвалі ягонае зьдзірванелае сэрца. І толькі пад вечар, калі ён апынуўся ў роднай кватэры, седзячы на канапе ля жонкі, якая ўжо спала, ён зразумеў, які геніяльны фатаздымак бачыў. Ён, Рыгор Рыгоравіч, фотакарэспандэнт, адзін зь лепшых за апошнія пятнаццаць гадоў, прасякнуўся гэтым маладым фотамастаком. Ён, нават не распранаючыся, лёг ля жонкі, якая сьніла Малібу, абняў яе і зарыдаў ад шчырай любові да яе і да ўсіх блізкіх яму людзей. Трэба было сусьветнаму часу супасьці такім чынам, каб фота і Рыгор Рыгоравіч апынуліся на адной хвалі.

Усё, што Данілу цешыла ў жыцьці, гэта сам працэс фатаграфаваньня. Ён любіў шпацыры, таму ў здымках было шмат урбаністычнага. Толькі праз аб'ектыў ён мог сачыць за жыцьцём горада, за жыцьцём жыхароў.

Праз аб'ектыў усё было куды больш цікавым. Адзіным месцам, дзе ён кепска пачуваўся, была школа, калі ён хаваў фотаапарат у торбу, калі гэтае жыцьцё, гэты побыт, навучальная ўстанова ды аднаклясьнікі абрыньваліся на ягоныя плечы, насядаючы, пакуль ён зусім не прыпадзе да падлогі. Вось так было кожным разам, але ён змагаўся, каб давучыцца, імкнуўся знайсьці ў навакольлі чорны ці зялёны колеры і пераключыць увагу на іх.

Данілу Лаканаву толькі шаснаццаць, ён падлетак, але яму ўжо абрыдла жыць сярод людзей, жывёл, расьлін, вычварэнцаў, дэгенэратаў, філёзафаў, мастакоў, сярод аўтамабіляў, тэхнікі, велізарных будынкаў. Ён ня хоча быць дзіцём асфальту, ён ня хоча быць дзіцём тэхнакратыі, ён ня хоча быць дзіцём атручаных людзей, ён ня хоча быць іх новым пакаленьнем!

0.4

Даніла Лаканаў сёння стаў паўналетнім па ўсіх парамэтрах. З гэтай нагоды ён нават адрасьціў трохдзённае шчаціньне, якое хутчэй нагадвала бедную расьліннасьць. Вочы зьзяюць блакітным, зьліваючыся зь лёгкім водбліскам ужытага алькаголю. Сёньня ён у бары. Вядома, гэта ня першае наведваньне бара і зусім не другое, як і кілішак, які ён трымае ў руках, далёка не другі і ня трэці. Сёньня ён стаў паўналетнім, і гэта прыгнятае. Ён злы, пануры, і гэта яго пэрманэнтны стан. Апошнім часам нічога не дапамагае, ні аб'ектыў фотаапарата, ні сон, ні сэкс, ні адзінота, ні ўцёкі ад соцыюму. Чалавецтва з усімі сваімі заганамі, з усімі сваімі поглядамі і маралямі цяжка цісьне на ягоныя плечы, ператвараючы сьпіну ў адзіны суцэльны горб скрухі.

Ён п'е, каб забыцца, а забываецца ён, як правіла, не заўсёды. Калі ж гэта адбываецца, то ён на мяжы суцэльнай непрытомнасьці – пачынае лезьці ў сваркі і бойкі і чапляцца да староньніх, незнаёмых мінакоў.

Даніла сьвядома труціць свой арганізм – хай лепш ён загіне ад уласных рук, чым будзе атручаным грамадзтвам і стане прадуктам пасьля спажываньня.

За барнай стойкай, мерна праціраючы келіх для марціні, стаіць бармэн, паўнаваты ў баках, з кароценькімі пальцамі, рэдкімі вусікамі і такімі ж непрывабнымі зубкамі. Але ён сапраўдны прафэсіянал па частцы «падпаленых» кактэйляў. Працірае ён келіх для марціні, а сам у думках падлічвае, калі зваліцца гэты малады чалавек, атручаны сьпіртным. У яго вока напрактыкавана на такія станы. Хлопец п'яны. Адзін неасьцярожны рух – і давядзецца па кавалках зьбіраць тленнае цела з падлогі.

Але Даніла як быццам зразумеў па хітрых вачах бармэна, чаго той жадае. І, узяўшы сябе ў рукі, адсунуўся ад барнай стойкі. Аднак стойка чамусьці пачала сыходзіць у права, а цела ўлева, і праз сэкунду зусім зьнікла з поля зроку. Не азіраючыся па баках, Даніла званітаваў таматавым сокам з салёным арахісам і гарэлкай з цытрынай на лысаватую верхавіну мужчыны ў белай кашулі зь безгустоўным ружовым гальштукам, што сядзеў непадалёк за круглым сталом зь дзьвюма дзяўчатамі, падобнымі да пародзістых і дарагіх прасталытак.

Кавалачкі арахіса зьліпліся з адзінокімі валасінкамі, некаторыя патрапілі мужчыну за каўнер, а таматавы сок афарбаваў верх кашулі ў забойна-крывавы колер.

Мужчына за сталом не адразу зразумеў, што адбываецца. Сэкунду да гэтага ён распавядаў сваім спадарожніцам неверагодна пацешныя гісторыі пра мінулы адпачынак у Чарнагорыі з прыяцелем, апусціўшы той момант, што «прыяцеляў» было два і абодва жаночага полу. Дык вось, ён які раз распавядаў, як «прыяцель» замовіў марціні, і яго павінны былі вось-вось прынесьці, а тут зьяўляецца ягоная былая каханка…

Пасьля праведзенай маніпуляцыі са страўнікам, ачысьціўшыся фізычна й маральна, з задавальненнем адзначыўшы, што выпэцкаў амаль з галавы да ног незнаёмца, Даніла адразу ж схапіўся за фотаапарат і пасьпеў двойчы шчоўкнуць мужчыну з ванітамі, перад тым як атрымаць у вока і адбыць у царства п'яных блазнаў.

Мужчыну такі расклад падзей відавочна не задаволіў. Ён ужо занёс нагу, каб пхнуць агіднага ванітавальшчыка ў мяккія бакі, скіраваўшы нос чаравіка да нырак, але бармэн, не разгубіўшыся, загадным тонам парушыў таямнічую цішыню ў бары:

– А ну спыніць! (кароткая паўза) Марціні для дам, калі ласка, – ні кроплі не зьбянтэжыўшыся і ўсім сваім выглядам даючы зразумець, што гэта ня бар, але рэстарацыя, бармэн пранізьліва ўтаропіўся на мужчыну і пайшоў з падносам да стала.

Лысы толькі і здолеў што сказаць «эх», у роспачы махнуў рукой і схаваўся ў прыбіральні, пакінуўшы дзяўчат сам-насам з марціні, якое іскрыла ў нацёртых да зьзяньня келіхах з маленькай, але панадлівай аліўкай на донцы. Лысы мужчына сёньня вельмі разьлічваў на блізкасьць. Яму было сорамна за гэтыя ваніты. Ён мыўся і думаў, што рабіць, вярнуцца і ўсё-ткі надаваць нахабнаму хлопцу або ўзяць сябе ў рукі і, з напышлівым выглядам, як быццам усё ў сьвеце тленна і ўсё несусьветная мітусьня, прыстойна выйсьці зь дзяўчатамі да таксі.

Але пакуль ён думаў, Лаканаў апрытомнеў, адчуў левае вока, якое налілося, бы сьліва, успомніў пра здарэньне і па-галівудзку (быццам бы шчыра, але ненатуральна) усьміхнуўшыся наведніцам з паўпустымі келіхамі марціні ў руках, сунуў бармэну буйную купюру ў нагрудную кішэню кашулі й схаваўся хісткаю хадой ва ўваходных дзвярах, з фотаапаратам наперавес і блытанымі думкамі.

0.3

Пахмурная раніца, у акно з падваконьня глядзіць голуб, па ўсім пэрымэтры вуліцы сьцякаюць кроплі дажджу…

Галава набіта паралонам, які ціха-ціха трэцца аб унутраныя сьценкі чэрапа.

Што было ўчора?

Адвечныя пытаньні чалавецтва. Даніла, як Хантэр С. Томпсан, усяляк спрабаваў захоўваць падзеі мінулага дня, але, у адрозненьне ад Томпсана, у яго замест дыктафона быў фотаапарат. Яго трэба абавязкова прагледзець

Так. Кампутар, картрыдар, карта з Nikon'a, устаўляем ў картрыдар, чакаем і глядзім…

За мінулы дзень Даніла не зрабіў і дзесяці кадраў. Больш за тое, яны аказаліся шараговымі і не былі вартыя ўвагі: за шэсьць гадоў ён навучыўся адразу адсейваць кадры не разважаючы, а

проста хутка на іх зірнуўшы. Нягледзячы на тое, што большасьць фатаздымкаў сапраўды былі высакаякаснымі, Даніла ведаў, што можа лепш, таму выдаляў не раздумваючы. Ягоная ўвага спынілася толькі на апошніх двух здымках і, вядома ж, не праз іх мастацкую каштоўнасьць. На здымках красаваўся суворы мужчына ў бела-чырвонай кашулі, пад два мэтры ростам, з кавалачкамі арахіса на лысай галаве, зь якой крапала чырвона-зеленкаватая вадкасьць.

На першым здымку мужчына ўстае са свайго месца зь непадробным здзіўленьнем у вачах. На другім відаць, як у аб’ектыў ляціць здаровы валасаты кулак правай рукі, і ляціць ён па такой па-баксёрску граматнай траекторыі, што пазайздросьцілі б нават прафэсійныя спартсмэны. На кулаку прыкметная белая палоска ад заручальнага пярсьцёнка, а на мезенцы прыгожая пячатка, у цэнтры якой лёгкім зялёным бляскам аддае зьмеявік.

Даніла быў зачараваны гэтай фатаграфіяй, ён быў шакаваны, ён закахаўся ў гэты выгляд, у гэты здымак, у гэты ракурс, дзе відаць, як мужчына, з галавой, шчодра аблітай яго ванітавымі масамі, злуецца на яго. «Ягоны суворы выгляд твару адлюстроўвае ўсе адносіны ў сусьвеце людзей, іх стаўленьне адзін да аднаго», – вырашыў Лаканаў. Ён успомніў пра ўдар і дакрануўся да падбітага вока, уздутага амаль раўнамерным колам у вачніцы.

Даніла ўпершыню адчуў, што нездарма яго званітавала на гэтага чалавека, ён спазнаў экстаз, шчасьце, спустошанае задавальненьне. Ён у адно імгненьне ўспомніў, як ён, малы, званітаваў у гарохавы суп, ён успомніў, як яму было балюча ад пакараньня, але прыемна ад помсты бацьку, які тады быў для яго ўвасабленьнем усяго злоснага ў сьвеце.

Даніла ўсьвядоміў, што яго заўсёды цягнула ачысьціцца ўнутрана, стаць пустым усярэдзіне, адчуць гэтую лёгкасьць у сьвеце, і ён цяпер знайшоў адзіны шлях, дзе няма хлусьні, дзе ты адкрыты ў першую чаргу перад сабою. Ванітаваць калі й дзе заўгодна, пры позыве й проста з помсты, пры агідзе да людзей і проста ў імя таго, што ты супраць.

Данілу ўпершыню ў жыцьці стала добра на душы, учора ён ачысьціўся, сёньня ён зробіць гэта яшчэ раз. Ён павінен дасканала вывучыць увесь гэты працэс. Такі выратавальны, такі чысты для яго душы.

0.2

Ваніты – гэта рэфлекторны акт фарсіраванага вывяржэньня зьмесьціва страўніка праз рот, што ўзьнікае на фоне спазмы прываротніка, расслабленьні дна страўніка і кардыяльнага прэсу страваводa пры адначасовым магутным штуршкападобным скарачэньні брушных цягліц, апусканьні дыяфрагмы й падвышэньні ўнутрыбрушнога ціску. Звычайна ванітам папярэднічае фаза перадвывяржэньня, якая складаецца з сымптомаў вегетатыўнага і саматычнага кампанэнтаў: млоснасьці, зьяўленьні камяка ў горле, цяжкага адчуваньня ў эпігастрыі, рэфлексу з дванаццаціперснай кішкі ў страўнік, сьлінацячэньня, зьяўленьні бледнага «насагубнага трыкутніка», тахікардыі, пашырэньні зрэнак, патлівасьці.

Ванітавыя пазывы характарызуюцца рытмічнымі сінхроннымі рухамі дыяфрагмы, брушных і вонкавых міжрэберных цягліц, у той час калі рот і галасавая шчыліна застаюцца зачыненымі. У фазу поствывяржэньня захоўваюцца прыкметы вегетатыўных і вісцаральных рэакцый, якія паступова цішэюць і вяртаюць пацыента ў стан спакою з рэшткавай млоснасьцю або безь яе. У шэрагу выпадкаў пасьля ванітаваньня млоснасьць праходзіць.

Такім чынам, ванітаваньне складаецца з каардынаванай працы групы дыхальных, страўнікава-кішэчных і брушных цягліц. Такая каардынацыя кантралюецца *цэнтрам ванітаў*.

Цэнтар ванітаў разьмешчаны ў латэральнай частцы ратыкулярнай фармацыі зблізку tractus solitarius. Сюды накіроўваюцца ўсе афэрэнтныя струмені з глыткі, страўнікава-кішэчнага тракта, вестыбюлярнага апарата і трыгернай (пускавой) зоны хемарэцэптараў, якая разьмяшчаецца ў area postrema ствала мозгу. Гэтая зона ахопленая багатай сеткай капіляраў з шырокімі перываскулярнымі прасторамі, якія ня маюць эфэктыўнага гематаэнцэфалічнага бар’ера, і трыгерная зона хэмарэцэптараў можа быць актывізаваная хімічнымі стымуламі як праз кроў, так і праз ліквор. Ванітавы цэнтар узбуджаецца таксама пры непасрэдным ціску на яго пухлінай галаўнога мозгу або праз кроў, напрыклад пры падскурным увядзеньні апамарфіну, а таксама пры назапашваньні ў крыві розных прадуктаў мэтабалізму, пры экза- і эндатаксікозе й

аўтаінтаксікацыі. Такім чынам, раздражненьні з розных абласьцей ЦНС могуць узьдзейнічаць на Ванітавы цэнтар.

Да фактараў, якія аказваюць уплыў на разьвіцьцё млоснасьці і ванітаў, адносяць некаторыя асаблівасьці самога пацыента, асноўную або спадарожную паталёгію, характар апэратыўнага ўмяшаньня або дыягнастычнай маніпуляцыі і іх лякалізацыю, фармакалягічную характарыстыку мэдыкамэнтозных сродкаў, выгляд і характар анэстэзіі.

Псыхагенныя ваніты – гэта хранічныя ваніты, якія ўзьнікаюць пры эмацыйных і іншых псыхічных засмучэньнях. Пры псыхагенных ванітах часьцей за ўсё не адзначаецца высільваньне, паколькі аб'ём ванітавых мас невялікі. У некаторых хворых гэта хутчэй рэгургітацыя, чым ваніты, прычым паніжэньне вагі не адпавядае частаце й выяўленасьці ваніт. Нэрвовая анарэксія і нэрвовая булімія нярэдка суправаджаюцца ванітамі й пахуданьнем. Пры нэўралягічных захворваньнях з падвышэньнем УЧЦ (пухліны, энцэфаліт, гідрацэфалія) таксама бываюць ваніты – нярэдка нястрымныя, «фантанам».

Таксама ваніты могуць несьці этыка-эстэтычны акт вызваленьня сьвядомасьці ад тленнасьці існаваньня…

0.1

Апраметная цемра, ноч, пятнаццаць хвілінаў да трэцяй, Даніла стаіць ля дзвярэй, што вядуць у спальню яго бацькоў. Рукі пакрытыя халодным потам. Ён глыбока і шумна дыхае, спрабуючы суняць дрыготку ў нагах і сьцішыць частату сэрцабіцьця. Даніла ўжо даўно вырашыў адпомсьціць сваім бацькам, але вось толькі незразумелы ўнутраны страх завалодаў ім амаль перад дзьвярыма. Цікава, што, калі ён рыхтаваўся да помсты, яму падавалася, што толькі ядзерны выбух зможа спыніць яго ад гэтага не зусім бесстароньняга ўчынку. Ён сёньня ўвесь вечар еў усё, што бачыў, ён быў горшы за хмару саранчы ў летні сэзон, маці толькі зьдзіўлялася неверагоднаму апэтыту сына, падазраючы яго ва ўжываньні наркотыкаў, яна неяк чула ад сяброўкі, што ёсьць такі наркотык, вельмі папулярны сярод моладзі, ад якога наступае эйфарыя і хочацца зьесці ўсё навокал… Але яе яшчэ да глыбіні душы дзівіла тое, як ён мяшае прадукты: мяса, каўбасу «Доктарскую», салодкі перац, селядзец у цыбульным соусе, мядовы пернік, малако, памідоры з часныком і сырам, малінавы джэм, вэнджаную каўбасу «Вясковую», берлінэр з клубнічным напаўняльнікам, марозіва і, каб усё ўляглося, – шклянка кефіру.

Лаканаў ледзьве ўпіхнуў усё гэта ў сябе і праз трыццаць хвілін выпіў настойкі ванітавага кораня, сеў на канапу ды ўключыў фільм Кім Кі Дука «Мара». Ён вельмі любіў Паўднёва-Карэйскі кінематограф і стаў чакаць першых позываў помсты.

Звычайна яго нудзіла ў розных месцах аднолькава, зьлёгку, з амаль чыстым страўнікам, так, толькі стрававальным сокам, гарэлкай, памаранчавым сокам, бутэрбродам зь вяндлінай «Галяндзкая» і сырам «Расійскі» з пэкінскай капустай усярэдзіне, або кавалачкам піцы з салямі, менавіта тым, што ён пасьпяваў перахапіць у кавярні ў горадзе днём, таму што звычайна прыступы нянавісьці й жаданьне ачысьціцца ўзьнікалі пасярод людзей, менавіта ў натоўпе, дзе кожны ішоў па сваіх справах са змрочнымі й абыякавымі маскамі на тварах, кожны быў эгаістам, амаральным і нячулым індывідам, які думае толькі пра тое, як дабрацца да неабходнага месца, думае пра нянавісьць да грамадзкага транспарту. Але сёньняшняя ноч цалкам іншая, ён зробіць гэта наўмысна, з помсты, таму й напхаў свой арганізм да адвалу ежай, каб гэта выглядала як «трэш», а не філязофія яго асабістага ўспрыманьня існаваньня.

Дзверы ў спальню сьветла-бэжавыя, з бліскучай мэталічнай ручкай. За ёю чутны бацькоўскі храп, неспакойны і як быццам злы. Бацька пачаў так храпці адразу пасьля таго, як жонка даведалася пра ягоныя здрады. У той дзень, шэсьць гадоў таму, ён да канца страціў зацікаўленасьць да яе як да жанчыны, і гэты храп стаў свайго роду красамоўным адказам для яе. Зрэшты, ёй ад яго ўжо даўно нічога ня трэба было, яна цудоўна ўсьведамляла, наколькі стала непрывабнай, з маршчыністым тварам, як быццам яму, твару, не пяцьдзясят гадоў, а ўсе сто, з абвіслымі да пупка грудзьмі, зь бялявымі вертыкальнымі расьцяжкамі, нагамі, сьпярэшчанымі надзьмутымі сінімі вэнамі, якія разыходзіліся ў розныя бакі, быццам карані дрэў. Яшчэ гадоў пятнаццаць таму, калі яна разглядала сябе ў люстэрку голай, у поўны рост, дзесьці ў

падсьвядомасьці яна сама сябе ўзбуджала і жадала, спакойна дапускаючы думкі пра выпадковыя каханьні. Шкада, што ўсё жыцьцё вось так, як пясок скрозь пальцы выцекла, абсыпаўшыся на ложку, засланым прасьцінай у чырвоныя яблыкі, зь пяцідзесяцігадовым цяжкім досьведам знаходжаньня ў тленным сьвеце.

Адыходзіць няма куды, ванітавыя пазывы ўжо выразна і ясна прабіваюць сабе дарогу вонкі, у яго ўсё мацней і мацней скручвае жывот, і сьліна, як у шалёнага сабакі, назапашваецца ў роце, яшчэ сэкунда – і ён будзе ёю пырскаць у розныя бакі, ён затуляе рот рукой і адчыняе дзьверы. Робіць тры крокі да ложка і спыняецца ля галавы бацькі.

Усё, цяпер можна расслабіцца і даць волю таму, што так жадае зь яго выйсьці, адпомсьціць за ўсё, што ягоны бацька зрабіў кепскага… адпомсціць яму за ягоную злосць…

Даніла прыбірае руку ад рота і наймацнейшым цёплым струменем ванітавых мас аблівае бацьку з галавы да скрыжаваных на грудзях рук. Трэба зазначыць, што ў гэты момант бацька як раз удыхаў паветра адкрытым ротам і таму ў спальным пакоі быў чутны магутны храп. Ваніты патрапілі яму ня толькі ў рот, яны разам з уздыхам захраснулі ў ягонай глытцы, праз што бацька ўмомант расплюшчыў вочы і ўскочыў з ложка, інстыктыўна баронячыся ад удушша.

Даніла скончыў сваю місію на сёньня і стаяў побач з бацькам, які кашляў. Ён шкадаваў толькі пра тое, што забыў узяць з сабою фотаапарат.

Бацька сьцяміў усё вельмі хутка і ня даў Лаканаву апамятацца і зьбегчы ад пакараньня: ён схапіў яго за руку й адным магутным, рэзкім рухам кінуў яго на падлогу.

Маці спрасонку наогул нічога не разумела, але, убачыўшы сцэну ў прыцемках, уцяміла, што муж дзее расправу над сынам і тут лепш ня ўмешвацца, таму яна ціхутка спаўзла з ложка на падлогу разам з гранатавым пледам, накрылася ім і стала назіраць, вырашыўшы для сябе, што ўмяшаецца, калі раптам наступяць прыкметы бацька- або сыназабойства, а якія менавіта прыкметы, яна і ўяўленьня ня мела, увогуле, будзь што будзе, вырашыла яна для сябе і падціснула ногі, абхапіўшы калені рукамі… Яе затрэсла ў нэрвовай гарачцы.

Данілу спачатку ахапіла паніка, калі ён тварам упёрся ў дывановае пакрыццё на падлозе, з заламанай за сьпінай рукой. Ён падумаў, што зараз памрэ. Але праз некалькі сэкунд Лаканаў здолеў ускочыць на ногі і наводмаш урэзаць адкрытаю далоньню бацьку па шчацэ, выпэцкаўшы руку ванітамі.

У Данілу Лаканава быццам усяліўся нячысты! Ён пачаў бегаць па кватэры і бурыць усё, што бачыў, зь неверагодным лямантам, які зрываўся на віскат, а часам на зьвярыны рык. Маці як загіпнатызаваная глядзела ў адну кропку на далёкай карычневай сценцы, пакуль з гэтага стану яе ня вывеў муж, які роў, каб яна тэлефанавала ў "хуткую" ці ў псыхушку.

Даніла хуценька сабраў неабходныя ў дарогу рэчы і – бегам з хаты. Не аглядаючыся, не зьмяняючы тэмпу спартовай хады, Лаканаў пасьпяшаўся да таксі, а там – на чыгуначны вакзал…

0.0

Дабраўся да вакзала з кіроўцам грузынскай нацыянальнасьці, шумным і таварыскім, што зусім не пасавала настрою Лаканава, бо ён так і ня вырашыў, куды ехаць. У такі час выбару на вакзале амаль не было, і Даніла, паранаідальна баючыся перасьледаваньня, якога насамрэч і не было, паехаў далей, зьмяніўшы таксіста на больш маўклівага і з больш славянскай зьнешнасцю. Ён вырашыў аўтаспынам дабрацца да заходняй мяжы дзяржавы.

Бацька, абцёрты першай рэччу, якая тапіла ў руку, пераапрануўшы начную сакол-ку, справадзіў выкліканую "хуткую", супакоіўся, успомніў пра жонку. Ён падышоў да яе, прыкленчыў, абняў і, горача пацалаваўшы ў вусны (упершыню за тры гады, адзначыла пра сябе жонка), так і застаўся разам зь ёй на падлозе за ложкам, накрыўшыся, як і яна, пледам. Зноўку закаханыя, зноўку падтрымліваючы адзін аднаго ў цяжкія хвіліны, у моманты бяды, яны паснулі разам з адной надзеяй, што іх сын ня вернецца. І, каб быць ўпэўненымі, бацька праверыў іх сямейную схованку: у шафе, на трэцяй паліцы паміж футболкай і белым ручнікам

ляжалі дзевяць тысяч трыста дваццаць пяць даляраў. Іх на месцы не апынулася. І дзякуй Богу, вырашыў спадар сямейства, значыць сапраўды ня вернецца. Значыць іх дзьверы, у іх пэрсанальны сямейны агмень для яго зачынены, і значыць яны спакойна, без калатнечы, сустрэнуць разам старасьць… Яны заснулі разам у абдымках, і ён сьніў рыбак і голых жанчын, падобных да жонкі, калі яна была маладой, а яна сьніла гарохавы суп і Моцарта, які граў на фартэпіяна перад талеркай.

Даніла ехаў усю раніцу і ўвесь дзень з дальнабойнікам, тоўстым дзядзькам, ад якога несла потам. Потым ён перасеў у мінібус, да пажылой пары зь сямю дзецьмі, і ўжо да наступнай раніцы ехаў у іх кампаніі, вясёлай, шумнай ды цікавай. Усё сямейства ехала загарацы адпачываць… Але Даніла проста ўцякаў. Нарэшце ён дзіўным чынам апынуўся ў Львове, дзе, сьмешна круцячы галавой, з адкрытым ротам, як дзіця, хадзіў і ўсё фоткаў.

Быў абед, і ён шукаў утульнае месца для працэсу паглынаньня ежы. Цікава, што ў гэтым горадзе ён не злаваўся на людзей і ня меў да іх нянавісці, хоць некалькі разоў нешта падобнае да нянавісці накатвала, падступала да горла, але гэтае пачуццё было прытуплена новым, неабжытым і недасьледаваным месцам.

І, шпацыруючы па брукаванцы і ўзіраючыся ў гэткія ж цагляныя старыя дамкі, ён заўважыў дзяўчыну. Яе звалі, як ён пазьней даведаецца, Мілена. Яна была далікатная, стройнюткая, з кароткімі валасамі на галаве, шаўковымі і амаль белымі. Але прыгажосьць і зграбнасьць прыцягнулі яго пазьней; першае, што яго ўразіла, гэта незвычайная карціна: Мілена стаяла ў далёкім куце двухпавярховага дома і, арыстакратычна выгнуўшыся наперад, мэханічна выклікала ваніты, а потым, калі спазмы праходзілі, паўтарала працэс наноў.

Даніла наблізіўся да яе і спыніўся на адлегласці дзесяці крокаў, яна яго не заўважала.

Нарэшце дачакаўшыся, калі яна скончыць, ён адважыўся падысьці да яе бліжэй. У гэты момант яна даставала вільготную сурвэтку з пакуначка і выцірала вусны, працірала лоб, вочы…

– Прывітаньне – зьвярнуўся да яе Даніла.

– А? – спужалася дзяўчына. – Мы знаёмыя?

– Не.

– Тады што табе трэба ад мяне?

– Чаму ты прымушаеш сябе ванітаваць?

– Таму што я анарэксічка.

– Ты ненавідзіш сваё цела і таму ванітуеш?

– Так.

– А я ненавіджу людзей і ўвесь сьвет, і таму мяне нудзіць.

– І што? – спытала Мілена

– Я іду абедаць, складзі мне кампанію, я першы дзень у горадзе.

– Я толькі што пакінула на ходніку свой абед.

– Тады я паабедаю.

– 0,1

“Ды патоне гэты сьвет у ванітах!” – крычаў Даніла на цэнтральным пляцы ў Бэрліне, абдымаючы Мілену… Яны выглядалі шчасьлівымі…

Ідзе ўжо другі год, як яны падарожнічаюць па Эўропе. Яна ванітуе анарэксічна, ён – ідэйна; яны амаль нічым не адрозніваюцца ад звычайнай маладой пары.

“Стан у соцыюме даўно ня «млоснасьць», як у Сартра, гэта ўжо ванітавы працэс”, – запісаў Даніла Лаканаў на апошняй старонцы дзёньніка.

*Чэрвень 2009*
*г.Менск*




**ДУХМЯНАЯ ЗАДУХА**
**(Млоснасць)**

Мембраны ў валізках, з увагай да разцярушанай восені. У Мілане. На вакзале, лета ў Салоніках. У Мілане.

– Зараз я магу замбаваць святароў. Я забраўся ў іх нейронавы цэнтр. Інтэрпрэтую тую ці іншую рэч у каштоўнасцях веры. Я аб'яўляю кошты для рупара жабракоў. Зараз мае мембраны фільтруюць іх вадкія мазгі. А той, хто інтэрпрэтуе, – вечны.

– Рэйс Салонікі – Эфіёпія, – з разумным выглядам адказала яна, – туды толькі наркакур'еры лётаюць.

Прыцмокнуў языком, чаргуючы віно і каву.

– Чужая і невядомая краіна! Выдатная нагода. Так, і на заўтра праграмы няма.

– І што нам рабіць? Мы ж наваленыя ў лайно!

– Я ўяўляю, як яны ржуць з нашага акцэнту: Цік аніс? – *Кяак справы*? І тут жа: «Хорістіо»! – *Дзякуя валыйкая*! Каліспера! Цік аніс, Полі кала?

– Пагрэем рукі на вуглях адпрацаваных мемаў. Працягнем выціскаць старых, нібы на біялагічным сметніку . Пагарэлы сярэдні клас – закальцаванае ахрап'е.

– Так, чакалі менавіта гэтага ветра, у тыя самыя ветразі – зліплыя ад няўхільнага мігцення гарызонту ветразі.

– Выдзеры ты гэту лямпу ўжо са сцяны! Ты ведаеш, неяк вочы за літары чапляюцца, нібы за парогі. З-за гэтага парогі і бачныя. Толькі парогі. Галаву з-за іх не падняць. Парогі, прыступкі, порцікі.

– Сёння была чарга да варажбіткі.

– Навошта ты назіраеш, калі я мастурбую? Спрабуеш схавацца, употай прамільгнуць, падгледзець, але ад гэтага стаеш прыкметней удвая.

– Мне падабаецца, калі ты збянтэжаны.

– Краіна няпужаных мух. Ад чаго яны тут такія неўтаймаваныя?

– Ім тэрмінова патрэбна адкласці лічынкі, пажадана ў цела. Пажадана ў цёплае. Пажадана ў мёртвае.

– Акурат у randaўцы, памятаеш?

– І кінуўся *Эгей* у мора, згледзеўшы чорныя ветразі на караблі *Тэсея*.

– Хадзіў сабе гэты стары з куфлямі піва. У плаўках, у пакамячанай панаме. Яго адрузлая скура хавала пярынай саскі барадавак. Ты мяне чуеш? Ледзь ніжэй сцёгны, поруч пахвіны. Ён і не заўважыў, што барадаўка спухла, а з часам пачала варушыцца. І не заўважыў бы, але апарышы заказыталі яго зморшчаны чэлес.

– Юнак *Алеандр* не знайшоў дарогі да ўмілаванай *Геро* і патануў. Кветка напоўнілася ядам.

– Сіеста мяне плавіць спёкай. Нібыта плыву ў перадсвітальнай утрапёнасці. Мне здаецца, старому было прыемна.

– Ты аглядала свой нарыў на шыі?

– Ён там жа, дзе і быў. На тым жа месцы, што і паўтара стагоддзя таму.

– Тут нечым смярдзіць!

– Нехта ў пральні прынёс рыбу. І да нас у пакой цягне скразнячок праз дрэнна заладжаныя дзверы.

*

– Бясконца – бяздумна, мг, шукай, не каб знайсці, а дзеля шчасця шукаць. Падарожнічай не дзеля канчатковай мэты, а дзеля шчасця вандроўкі. Дай душу сабакам, дай пацеркі свінням, самае галоўнае дай. Во!

– Ох, як салодка і высакамоўна, фу. Табе пара, я зачыняю кафэ, ужо чатыры.

– Добра, – увабраўшы рукавом лужыну куантро на ліпкім стале, ледзь стоячы на нагах, ён паплёўся да выйсця.

Нэя замкнула дзверы. Яе змена скончана. Чатыры хвалебных гадзіны. Раніца. Пуста, “трэба адаспацца да наступнай ночы”, – рыпаючы падэшвамі, думае Нэя. Збочыла да бардэля. Насупраць, без шыльд і апазнавальных знакаў – толькі дзверы, – нэонавы партал белай плоці. Нічога асаблівага, сотні разоў у дзень яна праходзіць міма. Спачатку, калі толькі прыехала і знайшла працу, ён служыў своеасаблівым арыенцірам. «Пунтас бар» – зіхаціць на шыльдзе ўстановы, дзе працуе Нэя, але з-за шчыльнай забудовы надпіс губляецца ў калідорах вуліц. А бардэль белы, як пена на капучына. Без надпісаў і вокнаў. Адны дзверы і тры паверхі ўгару. Белы куб пасярод неакласічнага паразітызму.

Гаспадар бардэля – Карл – наймілы трансвестыт. Два метры росту, ідэальная постаць, правільныя абрысы твару і смаліста-чорныя доўгія валасы. На фоне адпаліраванай беласці сцен – яркая мінімалістычная пляма. Зрэдку Нэя абменьваецца з ім усмешкай ды сквапным прывітаннем. Вось і цяпер ён стаіць поруч уваходу, пускаючы колы цыгарэтнага дыму.

*

– Не, гэта проста грузіны, азербайджанцы, армяне і ўсе астатнія горныя жыхары. Яны не пантыйцы і ніколі імі не былі. Гэта проста міф. Пантыйцы з Турэччыны ў дваццатых гадах усе пераехалі. А гэтыя проста шарлатаны, маўляў, пасля развалу СССР грэкі з Каўказа эмігравалі на гістарычную радзіму – у Грэцыю. Нядрэнная адмазка. Нагандляваўшы мандарынамі, самыя кемлівыя набылі сабе дакументы, нібы іх дзед ці прадзед грэк, а то і зусім, пад шумок вай-

ны, адразу пашпарт. Прыехалі ў Грэцыю, і – о жахі! Менталітэт мясцовага насельніцтва зусім іншы! І ніхто з табой біць таранькай аб стол, красці жанчын, рэзаць адзін аднаго не будзе. Ды і каўказскай дыяспарай звацца ніжэй годнасці горнага жыхара.

–Так разважаць – гэта злачынства супраць дэмакратыі, мультыкультурызму і ліберальных каштоўнасцяў.

– Цэнзура вернікаў, пачуцці якіх абражае нават касмічны карабель, – вось твая рудая дэмакратыя. Плебс, забачыўшы свабоду, адразу патрабуе бацьку з пугай. Пад*ай*, калі ласка, машынку для цыгарэт. Ты мяне чуеш? Ды вунь яна, пад кнігай. Я тут у суседа на недапалкі разжыўся.

*

– Гэта проста вельмі добры “шыш*ак*”. Галоўнае – ад каго прыйшло. Памятаеш ад Юрася? Так, гэта ад Іраклія.

Гаральд нацягнуў ружовую суколку, яго саскі – кончыкі іголак.

– Гаральд, ты настолькі банальны ў гэтым строі, што да болю мілы. Ты чуеш?



Ганна Бундзелева

Але Гаральд заняты сваім туалетам. Гаральд не звяртае ўвагі на разнастайныя папрокі ў адсутнасці метафізічнага ў яго і без таго стомленай галаве.

*

Нэя адняла піпку ад носа і адкінулася ў крэсла, какаін з раніцы яна яшчэ не практыкавала. Запаліла, пакуль тонкая дарожка парашку мерна знікала ў носе Карла.

“Дэмантаваць сваю ўласную самасць, каб нарэшце быць у самоце і сустрэць сапраўднага двайніка на іншым канцы лініі. Менавіта таму, што нам ужо больш няма чаго хаваць, нас ужо нельга спасцігнуць”, – загортвае Нэю хваля разваг.

Карл маўчыць, не выпускаючы цыгарэту з вуснаў. Нэя, задраўшы галаву, тоне ў падгалоўніку.

– Ну а ў астатнім – паўсюдная баналізацыя быцця, – шэпча Нэя, – ну і няхай. “І таму варта прыняць дадзенасць. Стаць як усе, а гэта якраз і ёсць станаўленне. Але толькі для таго, хто ўмее быць нікім, больш быць нікім!” – думае Нэя, утаропіўшы вочы ў столь.

– Давай спусцімся ўніз, – кажа Карл і адсоўвае крэсла.



*

– Гэты праход падобны да закінутай амерыканскай вілы. Толькі веранда значна менш і ўся завешана белымі ручнікамі.

– Мяне ўжо ванітуе ад белага колера. Я проста атручаны гэтым паўсюдна белым.

– Ведаеш, мора крадзе думкі.

– Мы тут прабылі больш, чым нам засталося. Мяне супакойвае тое, што мы больш сюды не вернемся. У гэту пустэчу. У гэту белую пустэчу.

– Так, гэта сапраўды так.

– Мы прачнёмся, і заўтра будзе кастрычнік.

*

– Ты ўжо скончыла? Нэя? Заходзь, вып’ем кавы.

У матавым люстэрку століка раскаўзаецца выява Карла. Карл зацягвае бялёсыя крупкі кокі, выгібаецца, пацірае нос і запальвае. Пасля ўважліва ўзіраецца ў Нэю.

“Ён проста бездань, і гэтыя каленкі здрадліва падрыгваюць, гэта заўсёды ў мяне так ад пераўзбуджаннасці адбываецца. Гэтыя здрадлівыя калені! Мяне ахутвае салодкае прадчуванне, нават страшна, і ад гэтага яны дрыжаць, і ніз жывата цягне, зводзіць, быццам хтосьці пальцам націскае на пупок”.

Нэя хавае позірк, “цяпер ужо какаін з раніцы гэта звычка”.

– Давай спусцімся ўніз, – кажа Карл і адсоўвае крэсла. Не дзівіся, уся Нямеччына сядзіць на какаіне. Уся нямецкая эканоміка – гэта дакладныя і бесперапынныя яго пастаўкі.

*

– Ён крадзе маё сподняе.

– Хто гэта “ён”?

– Ён! Сусед.

– Выратавальнік і па сумяшчальніцтве галоўны па басейне?

– Так. Я знайшла ў яго сваю бялізну, поруч дзвярэй, на століку.

– Ну, ён нічога такі, – перавярнуўся на жывот, закусіў вусны.

– Ён жа проста загарэлая груда мяса, і гэтае яго занадта правільнае трохдзённае шчацінне, фу.

– Ты ўяві, як яму ўвесь час хадзіць уздоўж басейна, калі там плёскаюцца дзяўчынкі дванаццаці – трынаццаці гадоў? Ды у яго мазгі аплываюць ад гэтых німфетак.

– Учора запрасіў прысесці з імі побач, пірагом пачаставаў, пасля нагнуўся і шэпча: “Ты скажы сваім сяброўкам, што калі сэкс – партыя, то я заўсёды гатовы” – хах-ха-ха, мяне ледзь не парвала ад смеху.



– Зусім галодны, небарака.

– Аттэншэн! Ахтуг! Просохі! Увага! Побач пражывае галодны выратавальнік! Шляхетны педафіл выйшаў бы. Але мараль і сацыяльчык напагатове.

– А як там твая дзяўчынка? Бачыў яе?

– Мне і імкнуцца не трэба. Яна сама высочвае. Сядзе непадалёк і пячэ спіну чорнай безданню шасцігадовых вачэй. Ажно валасы ўстаюць. Нават азірацца не трэба, я ведаю, што яна там. Але ўсё ж азірнуся, і сапраўды яна за спінай, зацягвае дзюрамі пашыраных зрэнак. Сустрэнешся з ёй поглядам, і ты ўжо патануў, захрас. Я спачатку спрабаваў адцягнуць яе ўвагу. Слімака паказваў, маўляў, паглядзі, хопіць ужо гіпнатызаваць мяне сваёй дзіцячай шчырасцю. Табе ж шэсць гадоў, самы раз з мамай за руку хадзіць ды лялькі перабіраць. Але не, яна ўпадае ў ступар, а пасля зрываецца з месца і знікае. Заходзіла ўчора да мяне ў пакой.

– І..?

– Ну а са споднім тваім што?

– Нічога, вісіць сабе, сохне сярод белых прасцін.

*

– Трэба валіць адсюль.

– Якім чынам?

– Ды лёгка! Від на жыхарства ў нас ёсць, пашпарты з сабой. Даедзем да Корфу, там на паром да Італіі, а далей – як вецер падзьме.

– Я ў Францыю хачу, у Парыж.

– Як так? А Берлін?

– Не ведаю, але адчуваю, што трэба спачатку ў Парыж. Нас там чакаюць вялікія падзеі. І не пытайся якія, я не ведаю. Ведаю, што чакаюць. А ўжо пасля ў Берлін, да Нэі. Я, дарэчы, у Салоніках на скволце пакінула “Суму немагчымасцяў” Разанава. Тады мне так захацелася, а зараз шкадую.

– Ды кінь ты гэтыя Салонікі разам з яго смярдзючымі сямейнымі таямніцамі, нават Разанаў ім ужо не дапаможа. Гэта цывілізацыя даўно знікла. Казлінае племя больш не здольна нічога парадзіць, толькі хадзіць за плугам і паразітаваць на некалі вялікім мінулым. Пайшлі, чуеш?

– Зараз, зараз, яшчэ трэба спаліць пару джынсаў і кашулі, так, і шкарпэткі. У мяне і без таго торба цяжкая. Усё, што шкада, – у бак, у агонь!

*

– Гаральд, ты куды? Паўгадзіны перад люстэркам круцішся, торбу сабраў. Ты ад мяне сыходзіш?

Гаральд паравёў погляд на адлюстраванне Фаўна. Вена на яго шыі адбівае маўклівыя секунды. Пальцы нэрвова скочуць па каленах.


Ганна Бундзелева

– Калі жадаеш, – ледзь паварушыў вуснамі Гаральд, – паедзем разам.

– Гэта навошта? Дакладней, так, так, я згодзен, – ён разгублена абвёў пакой вачыма, – толькі куды мы паедзем?

– А ты, напэўна, забыўся? Фаўн, – заенчыў Гаральд не змяняючы пастаці, – ты забыўся, што тут такіх, як мы, забіваюць камянямі. Гэтыя гаманіды нічога не маюць, ні літаратуры, ні мастацтвы, ні нават сораму і ў дадатак хрысцяцца перад кожным слупом!

Фаўн паклаў галаву на плячо Гаральда.

– У цябе сёння цёплыя рукі.

Глядзелі ў адлюстраванне адзін аднаго, доўга, моўчкі, разумелі, што няма таго месца, куды б яны жадалі вярнуцца. Іх радзіма – гэта аэрапорты, самалёты, гатэлі, кавярні. Яны заўсёды будуць пераязджаць з месца на месца, і прычына нават не ў іх каханні адзін да аднаго. Прычына ў вечным невяртанні.

– Паехалі ў Італію, Фаўн. Паром адыходзіць заўтра а дванаццатай. Паехалі, – Гаральд правёў далонню па яго шчацэ, патрапаў валасы, – я і твае рэчы сабраў, вунь яны за ложкам, ля акна. Спынімся дзе-небудзь у Мілане, здымем пакой поруч старога трамвайнага дэпо. Будзем

глядзець на дождж і цёгацца па сквотах. Я тут задыхнуся, Фа, мы абодва гэта ведаем. Ты таксама стаміўся змагацца з хвалямі млоснасці. Я ведаю.

*

– Гадоў дзесяць таму я гэта здолеў бы.

– А цяпер што? Як жа Амстэрдам, вандроўкі, свабода?

– А цяпер у мяне жонка надоечы павінна нарадзіць. Я ёй за чатыры гады ні разу не здрадзіў.

– Ты ж калісьці быў панкам! Навошта тады татуяванне на шыі “Рабі што хочаш, і будзь што адбудзецца”? Усё? Сям’я, лічынка, далей цвік у труну і белы саван? Ты хоць разумееш, што мінет табе проста так, бонусам дастаўся? Мне дваццаць тры, табе сорак, тваё жыццё на адыходзе, скончыцца, так і не паспеўшы пачацца. Ты нават трахнуць мяне баішся.

– У цябе новая фрызура?

– Так.

– Ты падобная да Жана Рэно. А ў мяне акуляры, як у той дзяўчынкі з фільма “Леон” – Мацільды.

– Мне трэба заўтра рана ўставаць, – яна падхапіла яго тон: – “Сказаў ён на прыканцы жыцця, і ні на што не вырашыўся”. Скажы мне, чаму нікуды не з’ехаў? Працуеш кіроўцам у Грэцыі, хоць бы раз згуляў у рулетку з лёсам. Мог бы паехаць у Галандыю, Нямеччыну! Ты ж не дурны і з ангельскай у цябе ўсё ладна.

– Мне падабаецца Грэцыя, я тут нарадзіўся.

– Ты хлусіш! Сам казаў, што ўсё жыццё марыў адсюль з’ехаць! Што твой прынцып – перакаці поле.

– Гэта было дзесяць гадоў таму.

– О, я, дарэчы, у гэтым парку ўчора была.

– У гэтым парку вечарамі збіраюцца гераінавыя наркаманы.

– Ну хоць тут ёсць сапраўдныя людзі! Спыніся, я выйду папаліць.

“Больш не жадаць, больш не шанаваць і больш не ствараць! Хай гэтая вялікая стомленасць назаўжды застанецца ад мяне далёкая”. – У цябе ёсць пяць хвілін, каб вырашыць: ці прыпаркаваць бус вунь за тымі дрэвамі і трахнуць мяне, ці непасрэдна адправіцца збіраць нікчэмных турыстаў з гатэляў. Абірай сам.

*

“Гэта парадокс Зянона. Ахілес і чарапаха. Бясконцая секунда, бясконца цягнецца, падзяляецца ў глыбіню, як нестабільны ізатоп урана памнажае сутнасці. Гэта задуха адчыняе свае пыльныя шчыліны. Узвышае імітацыю, даводзіць да апагею, ператварае смецце ў каштоўнасны арыенцір”.

– Чаму ты тут стаіш і не вяселішся з усімі на верхняй палубе?

– Я задыхаюся. Гэты карабель плыве ў пекла, а не ў Італію. Разумееш? У кожнай шчыліне сядзіць блашына, якая назірае за правільнасцю свету. Азірніся! Хто гэтыя людзі ў казліных шкурах? Што яны робяць?

– Скачуць. Танец маленькіх качанят, усяго толькі.

– Капітан па чарзе зазірае пад спадніцы тоўстым жаночым тушам. Танец маленькіх качанят? І заўваж – усім весела!

– Ну! Гэта ж смешна, глядзі – усе ў экстазе. І нават гэтае шасцігадовае дзяўчо, якое натоўп прымушае распрануцца ва ўгоду атрымання сваёй дзелі мяса, свайго месца пад сонцам.

– Яны не людзі! Гэта танцы на вуглях розуму. Ну, глядзі ж! Старую сякуць пугай.

– Старой падабаецца, бо лепш жа так памерці, чым у невядомасці ў сваім ложку? Ці не праўда?

– Водзяць карагоды, вырываюць кавалкі цела адзін у аднаго. Тлусты глянец скуры. Разяўленыя пашчы прагнуць жратвы. Пырскае страўнікавы сок. Увасоблены Босх! Што яны п’юць? Ты мяне чуеш? Навошта яны збіраюцца ў чаргу ля чана?

Ну, адпачылі? Давайце паспрабуем зноўку, можа, гэтым разам што атрымаецца. Камэра, матор… Паехалі!

Але ж і гэтым разам, і ўсімі наступнымі зноў нічога не атрымліваецца. Максімум, чаго дамагаецца рэжысэр, – капрызьлівых сьлёзаў малалетняй акторкі: маўляў, мне вашае могілкавае кіно зусім нецікавае, я зь сяброўкамі гуляць хачу, а як не, то купі мне марозіва!

Асыстэнт рэжысэра бяжыць па марозіва і па ўсё астатняе. Мастак падкалоднай зьмяюкай сіпіць пра бяздарнасьць усёй рэжысэрскай сямейкі. Апэратар выказваецца нэрвова: маўляў, лепш на калгасным вясельлі фатографам халтурыць, чым з вамі тут валтузіцца!

Усе гатовыя? Камэра, матор… Паехалі!

Чарговая спроба зьняць некрафільскую сцэну канчаецца тым, што рэжысэр выбухае, бы той сьледчы гестапа на допыце: "Ня веру!" Вочы ў яго робяцца колеру сырога мяса, а жэстыкуляцыя – як у качагара газавай камэры перад зьяўленьнем новага кантынгенту. Асыстэнт, апэратар і нават мастак хаваюцца за могілкавымі помнікамі і прысадамі, бо нават адзін разьюшаны кінарэжысэр "Беларусьфільма" куды страшнейшы за цэлую зондэркаманду СС.

Рэжысэра, зрэшты, можна зразумець: вытворчасьць фільма на кантролі ЦК КПБ, грошы ўкладзеныя неверагодныя, у адных толькі масоўках задзейнічана жывой сілы і тэхнікі ня менш, чым ва ўсёй Віцебскай аперацыі 1944 года.

Застаецца дзьсняць паўхвіліны фіналу. Кульмінацыя! Надрыў! Патэтыка! Катарсіс! А родная дачка такую сьвінюку падкладае – нават заплакаць па-людзку ў кадры ня можа…

І тут на здымачнай пляцоўцы зьяўляецца немаладая дасьведчаная адміністратарка і слушна прапануе: а што, калі запрасіць сюды маці дзяўчынкі? Мо яна растлумачыць ролю больш даходліва?

Рэжысэр, як і мае быць, дэманструе амбітнасьць: за каго вы мяне тут трымаеце, хіба я з эпізадычнай акторкі не змагу выцiснуць высокага трагізму па-максімуме? Я ж роўня Пану Богу і нават крыху вышэйшы за яго! Пан Бог стварыў гэты прымітыўны сусьвет зь "Беларусьфільмам" і Міністэрствам культуры за шэсьць дзён з гарантаваным адпачынкам на сёмы, дый потым не праходзіў ніякіх цэнзураў, мастацкіх радаў і закрытых рэцэнзій! А мне тут трэба адзьняць пераканаўчы партызанскі кінашэдэўр за крыху большы тэрмін, але пасьля гэтага вытрымаць такія пачварныя інстанцыі, у параўнаньні з каторымі ўсе Сем колаў пекла – шпацыр з дармавым півам па эдэмскім садзе!

Тым ня менш увечары рэжысэр нечакана пагаджаецца выклікаць жонку на здымачную пляцоўку: у мастацтве ўсе сродкі добрыя, а ў кінамастацтве – і пагатоў. Распараджаецца даць жонцы тэлеграму – маўляў, чакаем. Тая не рэагуе. Бяжыць на пошту, тэлефануе ў Мінск. Жонка не бярэ слухаўку. Рэжысэр накручвае дыск ці не паўгадзіны – безвынікова. Тэлефануе суседзям, трапляе да іх зь першага разу… і вяртаецца цалкам зьнясілены і ўчарнелы. Моўчкі зьбіраецца, нікому нічога не гаворыць і, нават не разьвітаўшыся з дачкою, зьяжджае ў сталіцу.

У кінематаграфічным сьвеце навіны разьлятаюцца імгненна. На раніцу ўся здымачная экспедыцыя ўжо ведае, што рэжысэрава жонка ўвечары сьпяшалася на вакзал і па дарозе патрапіла пад машыну. Да шпіталю не давезьлі, у "хуткай" памерла. Заўтра і пахаваньне. Нараіла тая сука-адміністратарка…

Здымачная група памяркоўна спачувае: рэжысэр, вядома ж, гадзіна рэдкасная, як і ўсе рэжысэры… Але ж яго ўсё адно шкада. Асыстэнт прапануе скінуцца на вяночак. Апэратар бярэцца ехаць у Мінск, дапамагаць з хаўтурамі. Мастак заўважае, што ён бы на месцы рэжысэравай жонкі сам даўно б кінуўся пад машыну. І толькі гуманная і вінаватая адміністратарка згадвае пра малую дзяўчынку… Што рабіць, як ёй расказаць? Тэлефануе рэжысэру і атрымлівае інструкцыю: дачцэ нічога не гаварыць, на пахаваньне не прывозіць ані ў якім разе, маўляў, потым ёй сам усе растлумачу.

У рэжысэраву адсутнасьць экспедыцыя самаарганізоўваецца на памінкі. Наліваюць, закусваюць і спачуваюць. Асыстэнт прымхліва прыгадвае, што ў кіно ня варта засяроджвацца на могілкавых эпізодах: маўляў, якую рэальнасьць мадэлюеш, такую потым і атрымліваеш. Мастак заўважае па-філязофску і безасабова: маўляў, годныя людзі сыходзяць, а вось розных падлюкаў зямля чамусь задоўга носіць. І толькі чульлівая адміністратарка па-мацярынску га-

дуе малую акторку вячэрай, задуменна лашчыць дзіцёнка па галаве і адварочваецца, каб тая не пабачыла ёйных сьлёзаў…

Памінкі, як то зазвычай і бывае, пераходзяць у ранішні апахмел. Кіназдымачная экспедыцыя пакрысе адмакае і лагаднее, і ўжо нікому ня хочацца згадваць пра прафэсійныя хібы і катаўнічыя мэтады пастаноўшчыка. Як ні круці – а па-свойму непаганы мужык, да таго ж – вытанчаны майстра мізансцэны і праўдзівы інжынер чалавечых душаў. Тым часам вясковае сонейка зацягваюць валавяныя хмары, нябёсы працінаюць блакітныя зарніцы, паветра электрызуецца, і ў паветры гэтым лунае пытаньне, якое ніхто не наважваецца агучыць: дык а што будзе зь недазьнятай партызанскай кінаэпапеяй?

Праз колькі дзён адміністратарка прывозіць рэжысэраву дачку ў Мінск, аддае бацьку, выказвае спачуваньні. Удавец, безвынікова спрабуючы спыніць нэрвовы цік, бярэ дзяўчынку за руку і вядзе праз увесь горад, па дарозе вытлумачвае: маўляў, нічога ня вечнае пад Месяцам і Сонцам, усё існае рана ці позна памірае. І той конік зь вясковага цьвінтара калі-небудзь памрэ, і я памру, і адміністратарка, і асыстэнт, і, вядома ж, мастак… І незаўважна прыводзіць дзяўчынку на могілкі.

Сьвежы капец, жалобныя вяночкі з чорнымі стужкамі, чырвоны слупок з фатаздымкам: маладая прыгожая жанчына з маркотнай усьмешкай. Усё, як у кіно, толькі цяпер ужо пасапраўднаму…

І ад гэтай сэнсавай рыфмы сапраўды становіцца страшна.

Дачка недаверліва ўглядаецца ў фотаграфію, нарэшце пазнае маці і ўсё разумее. Дзіцячы тварык умомант становіцца шкляным і перацінаецца сутаргай. На скроні пранізьлівым сполахам пульсуе пяшчотная сіняя жылка. Слёзы хутка-хутка цякуць па зьбялелых шчоках дзяўчынкі, і з кожнай сэкундай іх усё большае і большае.

Бацька незаўважна адыходзіць ад небаракі і няўзнак падміргвае ў бок хмызоў, дзе хаваецца апэратар з камэрай – адзіны чалавек ва ўсёй здымачнай групе, які ведае пра гэтую інсцэніроўку каля падробнай магілы жывой і здаровай маці…

…Чарговая кінаэпапея пра партызанскую Маці-Радзіму шчасьліва прайшла ўсе мастацкія рады, прыёмачныя камісіі ды закрытыя паказы ў шматлікіх інфэрнальна-кінематаграфічных спэцслужбах. Са стужкі амаль нічога не павыразалі. А вось фінальны эпізод, пранікнёны і шчымлівы, крануў нават закарэлыя душы інструктараў ЦК КПБ па культуры і мастацтве. Пасьля мінскай прэм’еры адзін зь іх сьціпла пацікавіўся ў пастаноўшчыка: маўляў, а што ж ты бяз жонкі, і чаму малую акторку сюды не прывёў, якая так геніяльна сыграла на могілках дачку закатаванай савецкай патрыёткі?

– Мая дачка і пагэтуль ня можа глядзець на гэтую сцэну бязь сьлёзаў, – празь цяжкі ўздых патлумачыў дасьведчаны кат партызанскага кінематографа, – бо яна надта блізка да сэрца ўзяла асабістую трагедыю сваёй кінагераіні!..




## ВЯСЁЛЫЯ ПРЫГОДЫ АНДРЭЙКІ І ГУЗІКА

Прыкладна а дзявятай увечары горад праплываў за вокнамі аўтобусу відэашэрагам для нямой сымфоніі. Бясконцыя зьмены краявідаў, добразнаёмых і дасьледаваных ва ўсіх дасканаласьцях, плылі адной даўгой стужкай. Складалася ўражаньне, што панарама замкнулася, што камэра круціцца на адным месцы, але, вядома ж, не. Гэта толькі падавалася так, мозг як мог супрацьстаяў гэтым звышэмацыйным фантазіям, і ў яго пакуль няблага атрымлівалася. Гузік ведаў, што гэта часова, і таму вельмі хацелася апынуцца на месцы як мага хутчэй.

Гэта было менавіта тое вясёлае сьвята, пра якое Солцы казала зранку. Зрэшты, колькі Гузік сябе памятаў, яно праходзіла прыкладна аднолькава, але засяроджвацца на гэтым ніхто асабліва не хацеў. Стабільна добрая кампанія, вясёлая атмасфэра, гутаркі. Чаго яшчэ можна чакаць ад вечару? Безумоўна, усё гэта было наканаванасьцю. Той, якую не ўсьведамляеш, пра якую нават ня думаеш увогуле, бо заняты ўвесь час нейкімі іншымі справамі. Простыя радасьці простых людзей, агульная бесклапотнасьць, што дазваляе сябе адчуваць калі не гаспадаром сьвету, то ва ўсялякім выпадку змагаром з гэтымі гаспадарамі. Спрытным ды заўжды непакорным. Гузік ніколі пра гэта ня думаў, яму ставала сваіх тэмаў. Хлопец, відаць, ад самага пачатку вырашыў, што ён супраць, і ўдакладняць, супраць чаго, не было ніякага сэнсу. Зрэшты, гэта толькі падпарадкаваньне традыцыі, даўняму звычаю перанараджэньня, уласьцівасьцям узросту… Пляваў на гэта Гузік. Пайшлі яны ўсе!

Людзі ў аўтобусе, паглыбленыя ў свае думкі, не зважалі ані на хлопца, што адасочваў горад праз працертае ад наледзі акенца, ані на каго яшчэ. Падпарадкаваныя адной мэце, яны

імкнуліся як мага хутчэй выйсьці на сваім прыпынку і зачыніцца за надзейнымі дзьвярыма. Хто раней, хто пазьней. Гузік не заснуў, ён выйшаў там, дзе было трэба. Не згубіўся. Жоўтыя ліхтары сьцякалі на брудны сьнег, нібы тыя сьвечкі ў сьвяточным торце. Роўнае сьвячэньне вакол лямпачак, марознае паветра і лёд, нібыта той замерзлы час, якога заўжды не стае. Зіма паланіла яго, цяпер усё вырашанае. І гэта безумоўна перамога над сіламі разбурэньня… Ці мала што яшчэ прыходзіла ў нецьвярозую Гузікаву галаву, пакуль ён пахістваючыся ішоў па раёне. Дзе па памяці, дзе на вобмацак, так ці інакш заўжды знойдзеш гэты патрэбны дом з пад'ездам, дзе цябе выратуюць і нават больш.

З кухні пахла індыйскімі інсэнсамі і травой, чуліся вясёлыя інтанацыі нейкага незнаёмага голасу, выбухі сьмеху, трапныя рэплікі. Гузік ня ведаў чалавека, які адчыніў яму, але той аднекуль ведаў Гузіка і, пакуль хлопец разьвязваў непаслухмяныя матузкі на ботах і пазбаўляўся курткі, увесь час пытаўся пра ягоныя справы, пра "жытуху", пра "як сам". Адказваць было ўжо ня так проста, таму даводзілася абмяжоўвацца нейкімі "добра", "нармальна", а часам і простым мыканьнем. У выніку Гузік апынуўся ў эпіцэнтры і трыбуны сустракалі хлопца авацыямі. У апошні момант, перад тым як страціць кантроль над рухамі, пасьпеў усё ж заняць месца ў куточку каля лядоўні і атрымаць прызавы кубак гарбаты.

– Гэй, Гузік, братка! Як жывы, чувак? Што новага? Малая казала, вы зьбіраецеся там заваліць у суботу. Так? Гэй, Гузік?! А-у-у!

– Так, ка-неш-не, – і ён адчуў, як вусны ягоныя расплываюцца ў непрыемнай бескантрольнай усьмешцы.

– Гэй, рабяты, вы ж толькі паглядзіце на яго! Дык яму ж пісьцец! А-а! Ні халеры ж сабе ты даў! Ну, мужык!

– А хрэна мне? – усё ператтварылася ў тло, галасы ўжо не вязаліся зь іх уладальнікамі, столь правісала, а з зачыненай духоўкі лілося нейкае дзіўнае выпраменьваньне.

– Нічога, рабяткі, нічога. Зараз усё добра будзе! Чуеце?! Зараз будзе! Ха-ха-ха!

– О, ну ты, Славік, як заўжды, ня можаш бяз гэтага.

– Хто гэта ня можа?! Я не магу?! Так, я не магу! Але я маю права, мне так Папа сказаў, вось табе крыж, дарагуля. Зараз усім будзе добра… опа! Глядзіце, што ў мяне тут ёсьць!

Прыкладна ў гэты момант Гузіка адсякло канчаткова. Такі лад жыцьця спрыяў сумневам у дасканаласьці сьвету. Лічыць, што ўся справа толькі ў рэчывах, якія часам вельмі актыўна ўзьдзейнічаюць на нэрвовую сыстэму, было неяк сумна і непрыкольна. Таму ня дзіва, што цэнтральную пазыцыю ў гэтай спрэчнасьці займаў менавіта сам сьвет, рэальнасьць людзей, бязьлітасная і варожая, зусім чужая, вартая адно адмаўленьня ці радыкальнай трансфармацыіі. У залежнасьці ад настрою. Новая касмагонія так і напрошвалася быць уведзенай у міжасабовыя стасункі, падагнаць іх пад патрэбы аднаго чалавека ці хаця б іх невялічкага вясёлага племені. Толькі зазвычай усё гэта было занадта сур'ёзным, а таму, уласна кажучы, і проста сумным. Такі стан ціхай, ненавязьлівай вайны на мяжы пабытовага канфлікту – зьява суцэльна часовая, празь некалькі год наўрад ці зможа выклікаць штонебудзь акрамя ўсьмешкі.

Калі далі карцінку, Гузік усё яшчэ ня мог разабраць, ці гэта сапраўды, ці толькі мроіцца. Спачатку зьявіліся гукі. Яны даносіліся аднекуль здалёк, магчыма зь іншага сьвету, ці ва ўсялякім выпадку з-за сьценкі. Перад вачыма ўзьнікла нейкая запыленая іржавая паверхня, хлопец доўга ня мог уцяміць, што гэта такое. Пасьля з-за яе выплыў твар. Гэткі нахабны і чырвоны. Голены чалавек у ссунутым на патыліцу барэце і, відаць, бяз вопраткі сьмяяўся, шырока раскрываючы рот, дэманструючы рэдкія непрыгожыя зубы. Сьмяяўся ён з Гузіка, таму гэта, натуральна, было непрыемна. Праз колькі імгненьняў у руках чалавека зьявіўся пісталет:

– Ну, шо ты? Га? Ну шо?! – непрыемныя жарцікі напалохалі і выкінулі хлопца з мрояў амаль канчаткова. Ён азіраўся, намагаючыся пазнаць месца, у выніку знайшоў сябе ў лазенцы, на мокрым дыванку пад ваннай. Лямпачка над люстрам была ўлучаная, электрычнасьць блікавала на белай кафлі. Асьцярожна прыўзьняўся і сеў. Вяртаньне было павольным і нялёгкім. Галасы з-за сьценкі зрабіліся гучнейшымі, але сэнсу па-ранейшаму было не разабраць. Можа гэта тэлевізар які, ці што? Пытаньні "дзе" і "калі" пакуль не пасьпелі набыць сваёй актуальнасьці. Рушнікі

на вяроўках плылі, аўтаномныя, у космас, кош для бруднай бялізны падаваўся адной толькі роўнай паверхняй, а між тым у дзьверы ўжо нехта грукаў. Адзін раз, два… Адразу адрэагаваць не атрымалася, можа, гэта нават выклікала пэўную нэрвовасьць.

– Гууззіііік! Тыы тааам?! Адчыыныііі! Гэта яаа, Гууззззік!

Каб яго цяпер спыталі, хто там і каму ён зьбіраецца адчыніць, то хутчэй за ўсё ён папросту б не зразумеў, чаго ад яго хочуць. Тым ня менш ён пагарнуў засаўку, і ў дзьвярным праёме зьявілася Солці. Яна зноўку плакала, але даволі стрымана, выглядала ня вельмі, крыху не ў сабе, але чаго ж было яшчэ чакаць ад гэткіх кампаній? Яна зачыніла па сабе дзьверы і літаральна ўпала на падлогу побач з хлопцам.

– Гуузічак! А, Гузічак! А ты вадзічкі хочаш? А ў мяне ёсьць, – у паветры плавала напаўпустая літровая бутэлька мінэралкі.

– Хачу.

– На!

Гузік зрабіў некалькі глыткоў і смага на пэўны час адступіла.

– Што ты тут робіш? – ён глядзеў на яе зь нейкім недарэчным, ідыёцкім зьдзіўленьнем, нібыта так і не зразумеў да канца, што да чаго. Фрагмэнты аніяк не хацелі зрастацца.

– Я тут вось цябе шукала, а ты ў лазенцы зачыніўся. Вось, знайшла… А ты Жэню выпадкам ня бачыў?

– Якога Жэню? Дзе?

– Ну, увогуле… Жэню, кажу. Нашага Жэню. Ты бачыў яго? Сёньня.

– Ня ведаю. А дзе?

– Божа, ну ты і аб’япос, Гузік! Адкуль мне ведаць дзе?! Дзе-небудзь.

Вяртацца зусім не хацелася, але Солці прычапілася надзейна, нібыта наўмысна хацела надаць яму цьвярозасьці. Вось жа дзе!

– Не. Нашага Жэню я сёньня ня бачыў, – у хлопца ўсё ж атрымалася гэта выдаць, але не бязь цяжкасьцяў. Часам перад вачыма ўсё яшчэ паўставалі дзіўныя зманлівыя вобразы паралельных сусьветаў, ці адкуль яны там былі.

– Ён абяцаў прыйсьці. Сказаў, што яму трэба на пару гадзінаў па справах, а пасьля, як вызваліцца, то адразу ж сюды і паедзе. Але дзе ён? Ты дакладна яго ня бачыў, га?

– Не, дакладна.

– Ужо позна, я хвалююся, каб нічога там ня здарылася. Хто ведае тыя ягоныя справы?

Яны замаўчалі. Гузік мог бы зь лёгкасьцю перавесьці цяпер стрэлкі, спытаць што-небудзь кшталту “А што там астатнія робяць?”, ці банальнае “А колькі часу? Вой! Дык гэта ж трэба на мэтро пасьпець!”, ці нешта яшчэ з той жа сэрыі, шкада толькі, што Гузік ня думаў, а таму адно маўчаў ды тупіў.

– Я, напэўна, сапраўды дурная. Хто ж яшчэ так можа? Канешне. Я зь сястрой бачылася. Новага яна мне нічога не сказала, усё, як і раней. Хаця не, сказала, што я цёткай буду і што яны з мужам ужо кватэру сабе прыглядзелі. Ну, гэта, зрэшты, так і павінна было здарыцца. Але неяк мне сумна пасьля гэтай размовы. Па-ідыёцку так сумна. Хочацца на штосьці спадзявацца? Ну, можа й так, хочацца. Толькі так дробна гэта ўсё, так нецікава. Сказала, што зусім я ня ўдзячная, што ў бацькоў ужо колькі не была, маўляў, няма ў мяне сумленьня. Чуеш, а можа я насамрэч сука гэткая, што пляваць на ўсіх, абы самой добра было, га? Можа не разумею нечага? Як ні здарыцца што ў мяне, адразу да людзей бягу – дапамажыце! Да цябе вось увесь час чапляюся. Можа, мне на працу ўладкавацца, да нармальных людзей, у калектыў, ці вучыцца пайсьці? Ды хоць куды, усё роўна. Але што тады будзе? Зноўку той самы муж, дзеці, кватэрка файненькая ў крэдыт? Гэта ж назаўжды! Пасьля ўжо не адкосіш. Усё. Раз – і канец. Нічога новага. Ніколі…

– Так, усё. Завязвай з гэтым! – Гузік пакрысе ачуняў і нават пасьпеў набрацца сілаў для кідка. – Трэба выбірацца адсюль. Чорт яго ведае што.

Хлопец адчыніў дзьверы, Солці кінулася за ім – яна напэўна, так і ня скончыла – агалены дзядзька з-пад ванны застаўся чакаць наступнага зручнага моманту.

Незаўважныя, яны адчынілі дзьверы і вылецелі прэч, дзьве маленькія птушачкі, няздольныя да нармальных рэакцый, зьніклі недзе ў начным космасе.

– Ну а цяпер ён зусім паехаў, – Андрэй сказаў гэта бісквітам, што круціліся ў шкляной вітрыне. Тыя ніяк не адрэагавалі.

– Гэта вы пра свайго сябра, ці пра каго? – Леначка высунулася з-пад стойкі, дзе ўжо, напэўна, хвіліны з тры вяла бязьлітаснае змаганьне зь нейкай кардоннай скрыняй.

– Так, пра яго. Ніяк з галавы ня пойдзе. Прабач, калі гружу.

– Ну, пакуль што ня грузіце, – яна вярнулася да працы.

– Бачыўся вось зь ім нядаўна. Здаецца, ну чалавек і чалавек. Колькі ўжо знаёмыя – і не ўзгадаеш таго. Але вось што зь ім робіцца, ніяк не магу зразумець.

– А што зь ім робіцца?

– Ну, здаецца і нічога, сядзіць сабе збольшага ў сваёй майстэрні, працуе. Часам зьявіцца дзе, але ня так, што паўсюль боўтаецца. Не. І усё ў яго ёсьць, чаго б яшчэ, здавалася? Неяк ці то няймецца яму, ці то папросту сумна, а мо й маразм ужо сапраўды які раньні, ня ведаю я. Давёў ён сябе, адным словам. Вось сустракаліся, дык ну ладна там, пахаіць гэтых старыканаў, каму тое не даспадобы, але тут… Ня ведаю. Я, Лен, нічога ўжо не разумею.

– Дык а што там? Гэта вы пра таго дзядзечку, у якога выстава ў тым месяцы была? У гэтым, як яго? У тым, што вялікі… Пра яго?

– Ну, так, пра яго. Пра Саню. Ён усё жыцьцё нешта мог адкалоць, а хто ж ад яго іншага чакаў? Але цяпер мне неяк сапраўды страшна.

– Цікава… А чаму страшна? Чым ён страшны такі? Мы зь сяброўкамі хадзілі, дык, здаецца, зусім ён і ня страшны.

– Гэтак і мне здавалася. Загаворваецца апошнім часам. Баюся, наробіць яшчэ чаго. Каб не нашкодзіў каму. Ці сабе. Ты вось, Лена, ведаеш, у яго ў жыцьці, акрамя ягоных карцінаў, нічога больш няма. Раней сям’я была, жонка з сынам. Але жонка ня вытрымала, ды хто б вытрымаў – гэта зразумела. І вось уяві: чалавек увесь час там, на сваім паддашку сядзіць. Есьці забывае. Часам прыйдзеш зраніцы, а ён пад мальбертам і ляжыць. Гэта калі працуе, а калі не працуе, там у яго дыскатэка жорсткая. Разу, напэўна, не было, каб без наступстваў. Сканчаецца ўсё тыдні праз два, прачнецца ён, папоўзае па горадзе паўпрытомны туды-сюды, паабяцае сабе больш ніколі ў жыцьці і назад у майстэрню лезе. І зноўку ўсё пачынаецца. І нічога дзіўнага з такім ладам жыцьця, калі клема заскоквае. Каратне – і ўсё, варыянтаў шмат.

– Дзіўныя вы, Андрэй, рэчы расказваеце. Ня ведаю нават, што і думаць, – Леначка скончыла сваё змаганьне, на яе твары праявілася ледзь заўважная чырвань. Перавяла подых і ўважліва паглядзела на Андрэя: – Вы каву яшчэ будзеце?

– Буду.

– Добра. І я буду.

Спрацаваў кававы апарат, прарычэў нешта неразборлівае. Зь лёгкім “дзынь” кубак крануўся сподка, прыемны водар разьліўся ў паветры нечым густым і цёплым.

– Я не разумею, чаго вы так хвалюецеся. Па мне, дык яны ўсе такія, кожны зь нечым сваім. Ёсьць у нас адзін хлопец. Толькі вучэльню скончыў, дык гэта ўвогуле той яшчэ кадр. І вось, здавалася б, добры, вясёлы, а часам пойдзе крэза, дык і не зразумела, што здарылася з чалавекам. Пье шмат, але хто ж з тых ня пье? Накідаюцца зь сябрамі і давай выдумляць. Апошні раз яго скотчам да крыжа прывязалі і ля кляштару кінулі, ля ўваходу самага, у нядзелю. А там па выходных людзі, экскурсіі. Добра, міліцыя ў час падасьпела, а тое натрапіў бы на якіх абураных, было б тады. А ў міліцыю ён, як да сябе дамоў, звыклая справа.

– Гэта добра яшчэ, калі без наступстваў за гэты прыкол з крыжам. А тое вунь у аднаго сур’ёзныя праблемы цяпер. Таксам з крыжом бавіўся.

– Дык гэты ж п’яны быў, неадэкватны, што зь яго ўзяць?

Андрэй падумаў, што сапраўды існуе нейкая недатыкальнасьць. Чалавеку папросту шанцуе ўвесь час, усё яму прабачаецца, пэрспэктывы так і пруць адусюль, шмат энэргіі, нейкай добраславёнасьці, калі што б ты ні зрабіў – усё пракаціць, нічога не застанецца бясплённым. Андрэй было падумаў, што гэта яшчэ й маладосьць, але своечасова перапыніўся. Ён дадумае гэта пазьней… Раптам дзьверы адчыніліся і ў залю заляцеў нейкі раз’юшаны суб’ект. Стары швэдар у ромбы, такія насілі год зь пятнаццаць таму, мешкаватыя блакітныя джынсы, рэдкія

пасівелыя валасы тырчалі кудламі. Чалавек адразу кінуўся да стойкі з выглядам скрайняй драматычнасьці й нейкага адчаю.

– Дайце мне, калі ласка, патэлефанаваць! Я бачыў яго! Чуеце?! Трэба тэрмінова выклікаць міліцыю! Ён там!

– Хто гэта ён? – Андрэй паспрабаваў хоць нешта зразумець з гэтага неразборлівага ляманту. – Што здарылася? Нашто вам міліцыя? Супакойцеся!

– Як “што здарылася”?! Я ж вам кажу! Там Сатана! Разумееце?! Сатана! Дайце мне тэлефон!

– Зараз-зараз. Не хвалюйцеся! – Ленка немаведама чаму расчыніла лядоўню, нібы хацела нешта адтуль узяць, але раптам ейны твар перакасіла ад жаху: – Божа! Ён там! О, божа! О, божа! – цяпер віскатала ўжо і яна. Андрэй ня ведаў, што думаць.

– Хто там?! – падхапіўся кудлаты.

– Там ён! Ён! О, божа! Толькі ня гэта! Не! Толькі ня так!

У наступнае імгненьне мужчына з крыкам кінуўся на ўцёкі. Спружына прытрымала за ім дзьверы. Усё сьціхла. Лена зачыніла лядоўню і вярнулася да кавы. У залі зноўку ўсталявалася лянотная цішыня.

– Гэта Коля. Коля Сатана. Заходзіць часам.

– Н-да, – не было чаго адказаць. Андрэй, здавалася, так і не зразумеў, што здарылася.

– Ну не даваць жа яму тэлефон.

– Так, гэта дакладна. Тэлефон яму даваць ня варта, – агаломшаны, ён пакрысе вяртаўся ў свой зыходны стан. “Вось здарыцца жа!”, адпіў крыху, працер рукамі твар, распрастаў сьпіну. У памяшканьні нічога не зьмянілася. Хуткія здарэньні заўжды застаюцца нечым нязначным.

– Ён так заходзіць час ад часу. Увогуле бясшкодны. Ва ўсялякім выпадку пакуль… А вы вось, Андрэй, пра свайго сябра кажаце, што ён, маўляў, паехаў. Вось вам кадр, якраз прыклад па тэме.

– Ну так… так. Прыклад, канешне, той яшчэ. – Андрэй міжволі пасьміхнуўся, хоць справы тут былі самыя сур’ёзныя. – Не хацеў бы я на ягоным месцы апынуцца.

– Дык вам і не пагражае, напэўна.

– Думаеш?

– Ага. А вы што, сумняецеся?

– Ды не… не. Што ты такое кажаш? Не, канешне.

Ён задумаўся, нібыта сапраўды ня быў упэўнены. На хвіліну ўявіў Саньку ў ролі вар’ята, што ходзіць па вуліцах і палохае людзей дзікімі крыкамі. Дзіўна, колькі магчымасьцяў у гэтым сьвеце, колькі варыянтаў.

– Ведаеш, Леначка, так ці інакш, але часам такое здараецца. Хто ведае, кім ты прачнесься заўтра? Лепш бы як-небудзь засьцерагчыся, але куды там з нашым сёньняшнім жыцьцём. Усё непрадказальна, бязладна, неяк незразумела. Я вось сяджу і думаю, а што калі заўтра на месцы гэтага чалавека апынецца той самы мой сябра. Пра сябе я так думаць не хачу. Але вось раптам. Зойдзе заўтра сюды Саня і адколе чаго гэткага, нібыта пажартуе. Як я тады адрэагую? Што буду рабіць? Ня ведаю. Калі ты малады і нецьвярозы, то вельмі хочацца быць нейкім іншым, непадобным, быць такім выключэньнем, дыямэнтам – як у той песьні. А пасьля надыходзіць час, і разумееш, што ўсё гэта неяк… нязручна. Прыгожа, вычварна, але ў выніку ні да чаго не вядзе. Між тым усё навокал зьмяняецца, немаведама адкуль прыходзяць разнастайныя ўмовы, зьяўляецца праца, сур’ёзныя дзядзькі ў гальштуках, адказнасьць. І што тады рабіць? Вычварнасьць нікому не патрэбная, яна не на карысьць, наадварот, толькі замінае. А калі выраблянца будзеш, паглядзяць на цябе, як на дзівака, ды сьпішуць з рахункаў. А там – круціся як хочаш.

– Сумна вы расказваеце. Няўжо ўсё сапраўды так?

Андрэй нібыта прачнуўся. Апошнія некалькі хвілін ён, відаць, гнаў на аўтамаце.

– Ня ведаю, можа й лухта ўсё гэта. Можа, я стары грузіла, і ўсіх справаў, – ён усьміхнуўся.

– Ай, годзе вам ужо! На кампліманты набіваецеся.

– Ды не. Ані разу.

– А вось і так.

– Ну, думай, што хочаш.



*Міла Шыдлоўская*

Раптам зрабілася сумна. Настрой сёньня быў нейкай няпэўнасьцю. Што ён увогуле тут робіць?

– Вы не хвалюйцеся так за свайго сябра. Ён сам разьбярэцца. Я так думаю. Вы вось, дарэчы, часта пра сваіх сяброў расказваеце, а пра сябе маўчыце. Чаму так?

– Ня ведаю. А што пра сябе скажаш?

– Ну як што? Вось усе прыходзяць і пачынаюць: "я тое", "а я там гэтае". А вы маўчыце.

– Я пасьля раскажу, наступным разам. Зараз часу ўжо няма, – Андрэй паглядзеў на гадзіньнік. Пераваліла за чацьвертую.

– На, трымай. Я пабег.

– Да пабачэньня. Ой! Не! Стойце!

– Што такое? – ён ужо было сунуўся да дзьвярэй.

– А вы прыходзьце да нас заўтра ўвечары. Тут невялічкі канцэрцік будзе, рабяты пайграюць. Прыйдзеце?

– Ня ведаю. Што там заўтра? Я паспрабую, добра?

– Паспрабуйце абавязкова.

– Добра. Да пабачэньня.

– Да пабачэньня.

Ён выйшаў на вуліцу. Сонца каацілася па небасхіле, цені слупоў і дрэваў ляжалі на чыстым асфальце. Але вясна цяпер падавалася іншай. Яе цяпер, лічы, і ўвогуле не было. Андрэй прайшоў некалькі кварталаў пехам. Не захацеў таўкчыся ў аўтобусе, таму ўзяў таксі. Кіроўца патрапіўся негутаркі, што было добра. Пасьля ён увайшоў у кватэру і залёг у ванну. З калёнак у той вечар гучаў блюз, ніякага асьвятленьня, акрамя манітору, не было. У ягонай сьціплай аднапакаёўцы ўсё ляжала па сваіх месцах. Рэчаў было небагата. Калі ён глядзеў на гадзіньнік у кавярні, то нікуды насамрэч не сьпяшаўся. Пасьля ён еў печыва і запіваў салодкай гарбатай. Рана пайшоў спаць.




## АСІНАЯ ФАБРЫКА

*(Заканчэньне. Пачатак і працяг у Макулатуры нумар 2 – Скотская, 3 – Без Галавы і 4 – Дзёньнікі па Англіі.)*

**10: Бягучы сабака**

Мяне заўсёды раздражняла, што Эрык раптам з'ехаў з глузду. Вядома, адбылося гэта не раптоўна (нармальны ў адну хвіліну й псыхічнахворы ў іншую), але наўрад ці хто-небудзь усумніцца, што гісторыя з усьмешлівым дзіцем нешта беспаваротна зьмяніла ў Эрыку, запусьціла нейкі працэс, які непазьбежна павінен быў прывесьці да вар'яцтва. Штосьці ў ім не магло прызвычаіцца да таго, што адбылося, не магло прымірыць убачанае зь ягоным уяўленьнем аб тым, як павінна быць. Магчыма, нейкая глыбока схаваная частка Эрыка, пахаваная пад слаямі часу й росту, нібы рымскія руіны пад сучасным горадам, верыла ў Бога й ня вытрымала ўсьведамленьня таго, што Ён (калі Ён сапраўды існуе) здольны дапусьціць, каб такое адбылося хаця б з адной зь істотаў, нібыта створаных Ім паводле Свайго вобразу й падабенства.

Што б ні зламалася ў Эрыку, гэта была слабасьць, першасная загана, якой не павінна быць у сапраўдным мужчыне. Жанчыны, наколькі я магу меркаваць па сотнях, калі ня тысячах фільмаў і тэлепраграмаў, не вытрымліваюць сур'ёзных узрушэньняў: скажам, згвалцяць іх, памрэ каханы чалавек – і яны адразу ламаюцца, сходзяць з розуму, зьдзяйсьняюць самагубства

ці проста марнеюць, пакуль не памруць. Вядома, я разумею, што ня ўсе яны так рэагуюць, але гэта відавочнае правіла, і тыя, хто пад гэтае правіла не падыходзяць, складаюць меншасьць.

Павінны быць і моцныя жанчыны, жанчыны з большай часткай мужчынскага ў характары, чым у большасьці, і падазраю, Эрык ня вытрымаў, паколькі ў яго характары было зашмат жаночага. Гэтая ягогая чуласьць і вечнае імкненьне не нашкодзіць, тонкі, жывы розум былі ў ім ад таго, што ён быў занадта падобны да жанчыны. Да таго агіднага выпадку ягоная жаночая частка ніколі яго не турбавала, але ў крытычны момант яе аказалася дастаткова, каб зламаць Эрыка.

Гэта віна майго бацькі, ня кажучы ўжо пра дурную сучку, якая кінула майго брата дзеля іншага мужчыны. Бацька часткова вінаваты ўжо хаця б праз першыя некалькі гадоў жыцьця Эрыка, калі ён дазваляў свайму сыну апранацца, як таму хацелася, і выбіраць між сукенкамі й штанамі; Хармсворт й Мораг Стоўвы правільна хваляваліся з нагоды мэтадаў выхаваньня пляменьніка й прапанавалі яго забраць. Усё магло б быць па-іншаму, калі б ня дзіўныя ідэі майго бацькі, калі б мая маці не пагарджала Эрыкам, калі б Стоўвы забралі яго раней; але здарылася тое, што здарылася, і я спадзяюся, бацька вінаваціць сябе ў той жа ступені, у якой вінавачу яго я. Хацелася б, каб ён адчуваў цяжар гэтай віны ўсе дваццаць чатыры гадзіны ў суткі, каб ня ведаў ні сну, ні супакою й прачынаўся ў халодным поце ад начных кашмараў, калі яму-ткі ўдасца заснуць. Ён гэта заслужыў.

Увечары пасьля майго паходу па ўзгорках Эрык не тэлефанаваў. Спаць я пайшоў даволі рана, стомлены ад свайго падарожжа, і дрых бяз задніх ног, але званок тэлефона ўсё роўна пачуў бы. Наступным ранкам я ўстаў як звычайна, прагуляўся па пяску ў ранішняй прахалодзе й вярнуўся якраз да добрага шчыльнага сьняданку.

У хаце стала вельмі горача, душна нават з адкрытымі вокнамі, я не знаходзіў сабе месца, а бацька быў спакайней, чым звычайна. Я блукаў па пакоях, выглядаючы ў вокны, апіраючыся на падваконьнікі, аглядаючы прымружанымі вачыма навакольлі. Калі бацька задрамаў у шэзлонзе, я падняўся да сябе, пераапрануўся у майку й тонкую камізэльку з кішэнямі, запоўніў іх карыснымі рэчамі, перакінуў цераз плячо заплечнік ды адправіўся аглядаць подступы да выспы, мяркуючы разам з тым наведаць сьметнік, калі, вядома, мух будзе не занадта шмат.

Я надзеў цёмныя акуляры, і карычневыя «паляроіды» зрабілі колеры ярчэй. Варта было выйсьці з дому, і я тут жа пачаў пацець. Млявы цёплы ветрык, зусім не асьвяжальны, няўпэўнена дзьмуў то з аднаго, то з другога боку й прыносіў пах травы й кветак. Я мерна рухаўся па сьцежцы, перайшоў мост, затым па беразе заліва й уздоўж плыні ручая, пераскокваючы цераз невялікія яго адгалінаваньні й прытокі, і, дайшоўшы да месца, дзе звычайна будую плаціны, павярнуў на поўнач. Далей я падняўся на ланцужок выдмаў, што глядзелі на мора, і рушыў па іх пясчаных верхавінах, нягледзячы на сьпёку й намаганьні, зь якімі даваўся ўздым па іх паўднёвым схіле; але мне быў патрэбны ідэальны агляд.

Паветра бліскала на сьпякоце, усё стала нявызначаным й дрыготкім. Калі я дакрануўся да пяску, ён аказаўся распаленым, жамяра ўсіх формаў ды памераў гула й таўклася вакол мяне. Я адмахваўся ад яе.

Пэрыядычна я, выціраючы пот зь ілба й, ускідваючы бінокль, узіраўся ў скажоную марывам далеч. Галава чухалася ад поту, у прамежнасьці сьвярбела. Я часьцей, чым звычайна, правяраў рэчы, што прынёс з сабой, няўцямна ўзважваючы на руцэ мяшочак з жалязякамі, кранаючы нож Боўі й катапульту на рамяні, правяраючы, ці ня страціў я запальніцу, гамэтку, люстэрка, асадку ды паперу. Раз-пораз я прыкладваўся да пляшкі, хаця вада была ўжо цёплая й затхлая.

Ля паласы прыбою мне трапіліся на вочы некаторыя цікаўныя дарункі мора, але я працягваў трымацца выдмаў, паглыбляючыся на поўнач, абыходзячы раўчукі й забалочаныя азёры, абмінуўшы Бомбавае Колца й тое безназоўнае месца, адкуль адправілася ў палёт Эсмэральда.

Я ўспомніў пра гэта, толькі калі яны ўжо засталіся ззаду.

Прыкладна праз гадзіну я павярнуў ад мора, потым на поўдзень уздоўж апошніх выдмаў, аглядаючы няроўныя пашы, дзе скублі траву авечкі, падобныя здалёк да лянівых лічынак. У нейкі момант я замёр і доўга разглядаў вялікую птушку, якая кружылася высока ў чыстым блакітным небе, лунаючы па сьпіралі на ўзыходзячых паветраных патоках. Ніжэй яе кружылі некалькі чаек, расправіўшы крылы й выцягнуўшы шыі, быццам у пошуках чагосьці. Высока на

схіле выдмы я знайшоў мёртвую жабу, ссохлую, на сьпіне яе запеклася кроў, жаба была ўся ў пяску, і я зьдзівіўся, як яна туды трапіла. Верагодна, яе выпусьціла птушка.

У рэшце рэшт я нацягнуў сваю зялёную кепку з брылём, каб сонца ня біла ў вочы, і збочыў на сьцяжынку, прыкладна на ўзроўні дома й выспы. Час ад часу я пазіраў у бінокаль. Легкавікі й грузавікі блішчэлі скрозь дрэвы, дарога была прыкладна ў мілі ад мяне. Праляцеў верталёт, хутчэй за ўсё ён накіроўваўся да свідравых альбо нафтаправоду.

Скрозь шэрагі маладых дрэваў я дайшоў да сьметніка неўзабаве пасьля поўдня. Я сеў у цяню дрэва ды ўважліва праінспектаваў звалку, выкарыстоўваючы бінокаль. Там было некалькі чаек і ніякіх людзей. Невялікі дымок ўздымаўся ад вогнішча ў цэнтры сьметніка, вакол яго было раскідана халусьце з гораду й яго навакольляў: кардон і чорныя плястыкавыя мяшкі, бліскучая, месцамі пабітая, белая паверхня старых пральных машын, газавых пліт і лядоўняў. Ускінуўся слабенькі віхраслуп, закруціў раскіданую паперу й тут жа ўлёгся.

Я прайшоў па сьметніку, смакуючы яго гнілы, саладкаваты пах. Стукнуў па некалькіх абломках, перавярнуў пару цікавых кавалкаў чаравіком, але ня змог разгледзець нічога вартага. Адна з прычын, па якой у мінулыя гады мне пачаў падабацца сьметнік, – тое, што ён ніколі не застаецца ранейшым, ён рухаецца як нешта вялікае й жывое, распаўзаючыся, нібы велічэзная амёба, паглынаючы зямлю й сьмецьце. Але сёньня ён выглядаў стомленым і сумным. Праз гэта я быў нецярплівы, амаль злосны. Я кінуў пару балёнчыкаў з-пад аэразоляў у слабое вогнішча, што палала ў цэнтры сьметніка, але нават гэта мала мяне пацешыла, яны ледзьве чутна бахнулі ў кволых языках полымя. Я пакінуў сьметнік і зноўку рушыў на поўдзень.

Ля рачулкі, прыкладна ў кілямэтры ад сьметніка, месьцілася вялікае бунгала з выглядам на мора. Яно было замкнёнае ды закінутае, і на калдобістай дарожцы, што йшла міма яго да мора, я ня ўбачыў ніякіх сьвежых сьлядоў. Па гэтай самай дарозе Вілі, адзін зь сяброў Джэймі, аднойчы вазіў нас на мінівэне ўздоўж пяскоў ды схілаў.

Скрозь вокны я зазірнуў у пустыя пакоі, там была старая разнамасная мэбля, якая выглядала пыльнай ды закінутай. На стале ляжаў стары часопіс, адзін кут якога пажаўцеў ад сонца. Я сеў у засені дома й дапіў ваду, зьняў кепку ды выцер лоб насоўкай. Я пачуў прыглушаныя выбухі ўнізе па ўзьбярэжжы, у нейкі момант над спакойнай вадой прагрымеў самалёт і паляцеў на захад.

Недалёка ад хаты пачыналіся нізкія ўзгоркі, пакрытыя жаўтазельлем ды пагнутымі ветрам дрэвамі. Я навёў на іх бінокаль, адмахваючыся ад мух, у мяне пачала пабальваць галава ды перасохла ў роце, хоць я толькі што выпіў рэшткі цёплай вады. Калі я апусьціў бінокаль ды надзеў акуляры, я пачуў гэта.

Хтосьці завыў. Нейкая жывёла – Божа мой, спадзяюся, падобныя гукі выдаваў не чалавек – крычала, яе катавалі. Гэта быў тонкі, аганізуючы лямант, нота, якую жывёла здольная ўзяць толькі ў свой сьмяротны час, гук, які не павінна выдаваць аніводная жывая істота.

Я сядзеў, абліваючыся потам, які, здавалася, тут жа выпараўся зь перасохлай скуры; але мяне біла дрыготка. Я калаціўся ад холаду з галавы да ног, нібы сабака, што абтрэсвае ваду. Зьліплыя валасы на маёй спатнелай патыліцы ўсталі дыбарам. Я хутка ўстаў, учапіўшыся рукамі за цёплую драўляную сьцяну бунгала, бінокаль калаціўся аб грудзі. Крык праляцеў з узгоркаў. Я ссунуў акуляры на патыліцу, узяўся за бінокаль, б'ючы ім па надбрыўных дугах у спробе навесьці рэзкасьць. Мае рукі дрыжалі.

Чорная постаць, за якой цягнуўся дым, стрэліла з кустоў. Кінулася ўніз па схіле, ля падножжа якога ссохлая трава пераходзіла ў жывую агароджу. Я спрабаваў ня выпусьціць яе з поля зроку, але бінокаль ходырам хадзіў у маіх руках. У паветры вісела выцьцё, тонкае й жудаснае. Я страціў уцекача за кустом, затым зноў убачыў яго, падпаленага, зьвер бег і скакаў цераз траву, затым, падымаючы пырскі, праз чарот. У роце ўсё перасохла; я ня мог праглынуць, я задыхаўся, але ня зводзіў позірку ад беднай жывёлы: яна сасьлізгвала ды паварочвала, вішчала ды падскаквала ў паветра, падаючы й зноўку ўскокваючы. У некалькіх сотнях мэтраў ад мяне й на такой жа адлегласьці ад падножжа ўзгорка яна зьнікла з поля зроку.

Я хутка перавёў бінокаль назад, паглядзець на вяршыню ўзгорка, старанна праверыў увесь ланцужок пагоркаў, уздоўж, уніз, назад, уверх, зноў уздоўж, спыніўся пільна агледзець куст, пакруціў галавой, зноў агледзеў усе пагоркі. Дзесьці ў кутку прытомнасьці мільганула зусім недарэчная думка пра тое, як у якім-небудзь фільме, калі хтосьці глядзіць у бінокаль,

паказваюць, што ён нібыта бачыць – звычайна гэта перакуленая набок васьмёрка, але калі я гляджу ў бінокаль, поле зроку складае, можна сказаць, ідэальны круг. Я апусьціў бінокаль, хутка азірнуўся вакол і, нікога ня ўбачыўшы, выбег зь ценю дома, пераскочыў цераз невысокі драцяны плот, які пазначаў сад, і з усіх ног прыпусьціў да пагорка.

На вяршыні я ледзь не напалову перагнуўся, аднаўляючы сарванае дыханьне, пот капаў з валасоў на яркую траву ля маіх ног. Майка прыляпілася да цела. Я ўпёрся далонямі ў калені й падняў галаву, напружваючы зрок, каб разгледзець жаўтазельле і дрэвы на вяршыні. Я глянуў уніз, на палі, на наступную лінію кустоў жаўтазельля, якая адзначала прасеку чыгункі. Я пабег трушком уздоўж пагоркаў, азіраючыся на хаду, пакуль не заўважыў пляму падпаленай травы. Затаптаў агонь, пашукаў сьляды й знайшоў іх. Я пабег хутчэй, не зьвяртаючы ўвагу на пратэсты горла й лёгкіх, зноў знайшоў падпаленую траву й куст жаўтазельля, які толькі што заняўся. Зьбіў полымя й рушыў далей.

У вузкай нізіне на далёкім ад мора схіле дрэвы раслі амаль нармальна, і толькі іх вяршыні, адкрытыя ветру, мелі характэрную перакошаную форму. Я скаціўся з грэбня ў парослую густой травой даліну, топчучы ірваны цень дрыготкай лістоты і галін. Там былі камяні, якія атачалі пачарнелы цэнтар. Агледзеўшыся, я заўважыў участак прытаптанай травы. Спыніўся, перавёў дух і зноў агледзеў дрэвы, траву й папараць, але нічога асаблівага ня ўбачыў. Я падышоў да камянёў, дакрануўся да іх і да попелу ў цэнтры. Усё было гарачае, занадта гарачае, каб утрымліваць там руку – хоць камяні знаходзіліся ў цені. І пахла бэнзінам.

Я выбраўся з даліны, залез на дрэва, супакоіў сябе й нясьпешна агледзеў навакольле, пры неабходнасьці зьвяртаючыся да біноклю. Нічога.

Я спусьціўся з дрэва, сэкунду пастаяў, набраў поўныя грудзі паветра й зьбег па схіле пагорка, зьвернутага да мора, накіроўваючыся па дыяганалі туды, дзе, наколькі я памятаў, была жывёла. Аднаго разу я зьмяніў напрамак руху, каб затаптаць невялікі агеньчык. Перапалохаў авечку, якая аб'ядала хмызьняк, сігануў цераз яе, не зьніжаючы хуткасьці, і яна з бляяньнем паскакала прэч.

Сабака ляжаў у ручаі, што цёк з балота. Ён быў яшчэ жывы, але чорная поўсьць выгарэла амаль цалкам, аголеная скура была чырвонай і сачылася крывёю. Сабака дрыжэў у вадзе й мяне калаціла разам зь ім. Падняўшы галаву з вады, ён заўважыў мяне адзіным уцалелым вокам. У лужыне вакол сабакі плавалі кавалачкі зьлямчанай, паўзгарэлай поўсьці. Я адчуў пах спаленага мяса й у горле, крыху ніжэй за кадык, зьявіўся камяк.

Я выняў мяшочак з жалезнымі шарыкамі, дастаў адзін, уклаў у гумку загадзя зьнятай з пояса катапульты, адцягнуў да вуха, дакранаючыся коўзкай ад поту шчакі, – і апусьціў гумку.

Сабачая галава падскочыла з вады, упала з фантанам пырскаў ды зноў падскочыла; абгарэлае цельца аднесла ад берага й падхапіла плыньню, але праз сэкунду зноў прыбіла да берага. Зь дзіркі на месцы таго вока цёк ручаёк крыві.

– Фрэнк гэтага так не пакіне, – прашаптаў я.

Я выцягнуў сабаку з ручая, выкапаў яму ў тарфяністай зямлі, душачыся час ад часу ванітамі з-за паху трупа. Пахаваўшы жывёліну, я зноў агледзеўся, прыкінуў напрамак пасьвяжэлага брызу, адышоў убок і падпаліў траву. Агонь пабег па апошніх сьлядах вогненнага шляху сабакі й над яе магілай, спыніўшыся ля вады – як я й думаў. Засталося толькі затаптаць некалькі кастроў на дальнім беразе, куды ветрам перанесла вугалькі.

Калі ўсё было скончана, я павярнуў у бок хаты й пабег.

Да хаты я дабраўся без здарэньняў, высербаў дзьве пінты вады й паспрабаваў расслабіцца, лежачы ў прахалоднай ваньне, на краі якой паставіў пакет памяранцавага соку. Мяне яшчэ доўга калаціла, пакуль я змываў пах гарэлага з валасоў. З кухні павеяла вегетарыянскай ежай – бацька задумаў гатаваць абед.

Я быў упэўнены, што ледзьве не сустрэў брата. Наўрад ці ён там начаваў, вырашыў я, але ён там быў, гэта дакладна; я зусім трошкі разьмінуўся зь ім. З аднаго боку, я быў рады, што ня ўбачыў яго, гэта было нялёгка прызнаць, але гэта так.

Я пагрузіўся глыбей, нырнуўшы пад ваду з галавой.

Я спусьціўся на кухню ў халаце, бацька сядзеў у камізэльцы ды шортах і, абапёршыся лакцямі на стол, чытаў «Інвернэскі кур’ер». Я паставіў пакет з памяранцавым сокам у лядоўню й прыўзьняў вечка рондаля, у якім астуджалася карры. Міска з салатай стаяла на стале. Бацька пераварочваў старонкі газэты, ігнаруючы мяне.

– Гарачае ці што? – спытаў я за няйменьнем лепшага пытаньня.

– Х-н-н-х.

Я сеў на процілеглым канцы стала. Бацька перагарнуў яшчэ адну старонку. Я пракашляўся.

– Побач з новым домам сёньня пажар быў. Я ўбачыў ды затушыў, – сказаў я, каб забясьпечыць прыкрыцьцё.

– Ну дык самае надвор’е, – адазваўся бацька, па-ранейшаму ня гледзячы на мяне.

Я задуменна кіўнуў ды пачухаў у прамежнасьці праз махровую тканіну халата.

– Я чуў прагноз, усё павінна зьмяніцца заўтра ўвечары, – я паціснуў плячыма. – Так і перадалі.

– Ну, пажывем – пабачым, – сказаў бацька, склаў газэту першай старонкай дагары ды ўстаў праверыць карры. Я зноў кіўнуў ды, пагульваючы канцом пояса ад халата, крадком скоса зірнуў на газэту. Бацька нахіліўся над плітой і панюхаў сумесь у рондалі. Я не адрываў вачэй ад газэты.

Я зірнуў на бацьку, прыўзьняўся, падышоў да крэсла, на якім ён сядзеў раней, стаў нібы гледзячы ў дзьвярны праём, але на самай справе касавурыўся на газэту. «ТАЯМНІЧЫ ПАЖАР У ДАЧНЫМ КАТЭДЖЫ», – паведамляў загаловак артыкула ў ніжнім левым куце першай паласы. Маленькі катэдж на поўдзень ад Інвернэса згарэў дашчэнту незадоўга да падпісаньня нумару ў друк. Паліцыя вядзе расьсьледаваньне.

Я вярнуўся на сваё месца й сеў.

Нарэшце надышла чарга карры з салатай, і я зноў пачаў пацець. Раней я думаў, са мной нешта не ў парадку, так як варта мне паесьці зранку карры – і потым цэлы дзень падпахі пахнуць ім, але, калі высьветлілася, што ў Джэймі такая ж гісторыя, я супакоіўся. Я зьеў карры, потым банан зь ёгуртам, але мне ўсё роўна было горача, а бацька, які заўсёды вылучаўся крыху мазахісцкім стаўленьнем да гэтай стравы, на гэты раз пакінуў амаль палову сваёй порцыі недаедзенай.

Я ўсё яшчэ быў у халаце й глядзеў тэлевізар у гасьцёўні, як раптам зазваніў тэлефон. Я кінуўся было да дзьвярэй, але пачуў, як бацька выйшаў са свайго габінэту адказаць на званок, таму я замёр у праёме, прыслухоўваючыся. Я мала што пачуў, але затым на лесьвіцы загучалі крокі, і я кінуўся назад да крэсла, плюхнуўся ў яго, прыхіліў галаву да сьпінкі, закрыў вочы ды адкрыў рот. Бацька адчыніў дзьверы.

– Фрэнк, цябе.

– Хм? – марудна сказаў я, прыадчыняючы вочы, паглядзеў на тэлевізар, затым падняўся, зьлёгку хістаючыся. Бацька пакінуў дзьверы адчыненымі ды пайшоў у габінэт. Я падышоў да тэлефона.

– Мм? Алё?

– Алёў, Фрэнк? – сказаў вельмі ангельскі голас.

– Так, алё? – разгублена адказаў я.

– Хе-хе, Фрэнкі, – закрычаў Эрык. – Вось я й тут, у самым сэрцы вашых лясоў, ды паранейшаму ем гарачых сабак! Хо-хо! Ну што, брацельнік, як жыцьцё маладое? Зоркі спрыяюць, га? Ты, дарэчы, хто па гараскопе? Нешта я запамятаваў.

– Сабака.

– Гаў! Няўжо?

– Ну так. А ты? – спытаўся я, паслухмяна прытрымліваючыся аднаго з руцінных рытуалаў Эрыка.

– Рак! – завішчаў ён.

– Дабраякасны ці злаякасны? – стомлена спытаў я.

– Злаякасны! – крыкнуў Эрык. – Я тут якраз вошай набраўся!

Я адсунуў трубку ад вуха, пакуль Эрык рагатаў.

– Слухай, Эрык... – пачаў я.

– Як жывеце? Як жывоцік? Як жыво-цік-так? На здароўе ня скардзіцеся? Ды й наогул, як яно? Дзе твая башка ў дадзены момант часу, га? Адкуль ты родам? Божа, Фрэнк, ці ведаеш ты, чаму «Вольва» сьвішчуць? І я ня ведаю, але каму якая справа? Як там казаў Троцкі? «Мне патрэбен Сталін гэтак жа, як мне патрэбна дзірка ў галаве» Ха-ха-ха-ха! Насамрэч мне не даспадобы нямецкія машыны, у іх фары разьмешчаны занадта блізка адзін да аднаго. Ты ў парадку, Фрэнкі?

– Эрык ...

– У ложак, спаць, магчыма, мастурбаваць. Ох, проста пагладжваць! Хо-хо-хо!

– Эрык, – сказаў я, паглядзеўшы вакол і ўверх па ўсходах, пераканаўшыся, што бацькі не было відаць. – Мо заткнесься ўжо, га?

– Што? – пакрыўджана прамямліў Эрык.

– Сабака, – прашыпеў я. – Я бачыў сёньня тую сабаку. Ля новага дома. Я быў там. Я бачыў яе.

– Які яшчэ сабака? – зь недаўменьнем перапытаў Эрык. Я пачуў яго цяжкі ўздых, і ў слухаўцы нешта бразнула.

– Не спрабуй мяне заблытаць, Эрык, я яе бачыў. Я хачу, каб ты спыніў гэта, ясна? Не чапай сабак. Чуеш мяне? Ты зразумеў? Га?

– Што? Якія сабакі?

– Ты чуў. Ты занадта блізка. Не чапай сабак. Пакінь іх у спакоі. І дзяцей таксама. І ніякіх чарвякоў. Проста забудзься. А калі хочаш нас пабачыць – заходзь, мы будзем рады. Але ніякіх чарвякоў, ніякіх падпаленых сабак. Улічы, Эрык, я сур'ёзна. Павер мне.

– Чаму паверыць? Ты гэта ўвогуле пра што? – загаласіў ён жаласна.

– Ты чуў, – адказаў я й паклаў слухаўку. Я стаяў ля тэлефона й глядзеў на лесьвіцу. Празь некалькі сэкундаў зноў зазваніў тэлефон. Я падняў слухаўку, пачуў гудкі й я паклаў яе на апарат. Пастаяў там некалькі хвілін, але больш нічога не адбылося.

Калі я вяртаўся ў гасьцёўню, з габінэту выйшаў бацька, праціраючы рукі анучай і гледзячы на мяне шырока расплюшчанымі вачыма. У калідоры павеяла дзіўным пахам.

– Хто гэта быў?

– Джэймі, – адказаў я. – Пакрыўляцца вырашыў.

– Ну-ну, – зь яўнай палёгкай адказаў ён і зноў зьнік у габінэце.

Калі не лічыць адрыжку, выкліканую карры, бацька вёў сябе ціха. Увечары, калі гарачыня спала, я абышоў выспу па пэрымэтры, усяго адзін раз. З мора набеглі аблокі, зачыняючы неба, нібы дзьверы, што замыкаюць сьпякоту над выспай. Гром без маланкі прагрукатаў на другім баку ўзгоркаў. Спаў я неспакойна, ляжаў, пацеючы й тузаючыся, паварочваючыся на ложку, пакуль наліты крывёю сьвітанак не падняўся над пяскамі выспы.

**11: Блудны сын**

Прачнуўшыся пасьля чарговага раўнду неспакойнага сну, я ўбачыў, што коўдра ляжала на падлозе побач з ложкам. Тым ня менш я ўсё роўна спатнеў. Я ўстаў, прыняў душ, старанна пагаліўся й забраўся на гарышча, пакуль там ня стала занадта горача.

На паддашку было вельмі душна. Я расчыніў акно, высунуў галаву вонкі й старанна агледзеў у бінокль сушу й мора. Неба было закрыта аблокамі, сьвятло здавалася стомленым, і вецер быў затхлы. Я крыху пакорпаўся з Фабрыкай, накарміў мурашак, павука й Вэнэрыну мухалоўку, праверыў правады й батарэйкі, сьцёр пыл са шкла над цыферблатам, змазаў дзьверкі ды іншыя мэханізмы, большай часткай для таго, каб супакоіцца. Выцер пыл з алтара ды акуратна ўсё на ім расставіў, праверыў лінаркай, каб бляшанкі й усё астатняе было разьмешчана строга сымэтрычна.

За гэты час я зноў пасьпеў спатнець, але другі раз лезьці ў душ паленаваўся. Бацька ўжо ўстаў, і, пакуль ён рыхтаваў сьняданак, я паглядзеў па тэлевізары нешта з ранішніх суботніх праграм. Мы елі ў цішыні. Потым я абышоў выспу па ўсім пэрымэтры, на ўсялякі выпадак прыхапіўшы з Бункеру торбу з чарапамі й тушкамі для магчымага рамонту Слупоў падчас іх абыходу.

Абысьці іх заняло больш часу, чым звычайна, таму што я шмат разоў спыняўся, падымаўся на вяршыню бліжэйшай выдмы, каб агледзець навакольле. Але так нічога й ня ўбачыў. Галовы на Ахвярных слупах былі ў даволі добрым стане. Мне прыйшлося замяніць пару мышыных галоваў, але й толькі. Астатнія галовы й вымпелы былі некранутыя. На схіле выдмы, зьвернутым да горада, я знайшоў мёртвую чайку – дзюбай да цэнтра выспы. Галаву я ўзяў, астатняе закапаў пад Слупам; яна ўжо пачынала сьмярдзець, так што я засунуў яе ў поліэтыленавы скрутак і паклаў да ўжо засушаных ў Мяшок з Галовамі.

Я пачуў, а потым і ўбачыў, як узьняліся птушкі, хтосьці прайшоў па сьцежцы, але я ведаў, што гэта проста місіс Клэмп. Я ўскараскаўся на выдму паглядзець і ўбачыў, як яна ехала па мосьце на сваім старажытным ровары з кошыкам. Калі яна зьнікла за выдмай ля дома, я кінуў погляд на пашу, але там не было нічога новага, толькі авечкі й чайкі. Са сьметніка падымаўся дым, і, калі напружыць слых, можна было пачуць мернае бурчаньне старога дызеля на чыгунцы. Неба было ў аблоках, але яркае, вецер ліпкі й няўпэўнены. На моры ля гарызонту я бачыў залатыя палоскі – вада блішчэла пад прасьветамі ў аблоках, – але яны былі вельмі, вельмі далёка.

Я абышоў усе Ахвярныя Слупы, потым цягам паўгадзіны цешыў сябе стралянінай па мішэні ля старой лябёдкі. Я паставіў некалькі пустых кансэрвавых бляшанак на іржавае жалеза барабана, адышоў на трыццаць мэтраў ды па чарзе зьбіў іх з катапульты, прычым мне спатрэбілася толькі тры дадатковыя шарыкі на шэсць бляшанак. Калі я знайшоў усё снарады, акрамя вялікага падшыпніка, я паставіў банкі на месца, вярнуўся на ранейшую пазыцыю і стаў кідаць камяні па бляшанках; на гэты раз спатрэбілася чатырнаццаць кідкоў. Скончыў я кіданьнем нажа ў дрэва ля старога авечніка й быў рады пераканацца, што правільна вызначаю патрэбную колькасьць паваротаў нажа, лязо кожны раз уваходзіла непасрэдна ў спаласаваную кару.

Дома я памыўся, пераапрануў кашулю ды спусьціўся на кухню. Місіс Клэмп якраз падавала першую страву – булён, чамусьці пякуча гарачы. Я сеў ды стаў памахваць над сваёй талеркай кавалкам мяккага пахкага белага хлеба, у той час як місіс Клэмп ужо шумна хлябала са сваёй, а бацька крышыў у сваю вотруб'евы хлеб, у якім, здаецца, былі габлюшкі.

– Як маецеся, місіс Клэмп? – ветліва спытаў я.

– О, у мяне ўсё як трэба, – сказала місіс Клэмп, рухаючы брывамі, падобнымі да кудлатага канца ваўнянай ніткі, якая выбілася са шкарпэткі. Максымальна насупіўшыся й зьвяртаючыся цяпер да лыжцы ля свайго падбародзьдзя, яна пацьвердзіла: – Так-так, я нармальна.

– Хіба вам ня горача? – гмыкнуў я, працягваючы абмахваць хлебам свой суп пад грозным прыцэлам бацькоўскага позірку.

– Лета ж, – патлумачыла місіс Клэмп.

– Ох, сапраўды, – сказаў я, – а я й забыўся.

– Фрэнк, – невыразна буркнуў бацька, яго рот быў поўны гародніны й габлюшак.

– Я ня ўпэўнены, ці памятаеш ты ёмістасьць нашых лыжак.

– Адна шаснаццатая пінты? – нявінна спытаў я.

Бацька спахмурнеў яшчэ мацней і адправіў у рот чарговую лыжку супу. Я працягваў махаць сваёй лустай, перапыніўшыся толькі для таго, каб патрывожыць лыжкай карычневую плёнку на паверхні булёна. Місіс Клэмп зноў прынялася сёрбаць.

– А як справы ў горадзе, місіс Клэмп? – пацікавіўся я.

– Ды нармальна, наколькі я ведаю, – паведаміла місіс Клэмп свайму супу.

Я кіўнуў. Бацька дзьмуў у сваю лыжку.

– Кажуць, у Маккізаў зьнік сабака, – дадала місіс Клэмп.

Я зьлёгку падняў бровы й заклапочана ўсьміхнуўся. Бацька аслупянеў, і зь яго лыжкі, канец якой стаў павольна апускацца пасьля словаў місіс Клэмп, у талерку заструменіў суп. У цішыні кухні гэта гучала, як быццам мача ліецца ва ўнітаз.

– Ды ну? – сказаў я, працягваючы махаць. – Які жаль. Добра, што майго брата тут няма, а то б яго адразу абвінавацілі, – я ўсьміхнуўся, паглядзеў на бацьку, потым вярнуўся да місіс Клэмп, якая плюшчылася на мяне праз пар, што ўздымаўся ад супу. У лусьце хлеба, якой я астуджаў булён, утварылася расколіна і яна разламілася напалам. Я спрытна падхапіў падаючы кавалак свабоднай рукой і паклаў яго на сподак побач з талеркай, затым узяў лыжку й асьцярожна пакаштаваў булён.

– Хм, – прамармытала місіс Клэмп.

– Сёньня місіс Клэмп не змагла прывезьці твае катлеты, – сказаў бацька, папярхнуўшыся на «не», – замест іх яна прывезла табе фарш.

– Прафсаюзы, – хмурна вымавіла місіс Клэмп, плюнуўшы ў сваю талерку.

Я паставіў локаць на стол, абапёрся шчакой на кулак і азадачана паглядзеў на місіс Клэмп. Безвынікова. Яна нават не падняла галавы; у рэшце рэшт я паціснуў плячыма й заняўся супам. Бацька апусьціў лыжку, выцер лоб рукавом і паспрабаваў выняць пазногцем нешта, што засела між двух верхніх зубоў, мяркую, гэта быў кавалачак габлюшкі.

– Учора ля новага дома я ўбачыў невялікі касьцёр, місіс Клэмп. Я яго пагасіў. Я быў там, убачыў ды пагасіў, – сказаў я.

– Не выхваляйся, хлопец, – сказаў бацька. Місіс Клэмп захоўвала маўчаньне.

– Ну, я ж зрабіў гэта, – я ўсьміхнуўся.

– Упэўнены, місіс Клэмп гэта не цікавіць.

– Ну, я б так не сказала, – заўважыла місіс Клэмп і чамусьці заківала.

– Бачыш? – ухмыльнуўся я, гледзячы на бацьку і ківаючы на місіс Клэмп, якая працягвала шумна сёрбаць. Пасьля зноў заваркатаў сабе пад нос.

Калі елі другое (рагу), я маўчаў, а за традыцыйным дэсэртам (рэвень з заварным крэмам) адзначыў, што ў яго з’явіўся нейкі новы прысмак; хаця, па праўдзе кажучы, малако, зь якога рабілі крэм, яўна было скіслае. Я ўсьміхаўся, бацька бурчаў, а місіс Клэмп з хлюпаньнем уцягвала крэм і выплёўвала кавалкі рэвеню на сурвэтку. Зрэшты, яе можна зразумець – рэвень быў недавараны.

Вячэра надзвычай падбадзёрыла мяне, і, хаця другая палова дня выдалася гарачэй, чым ранак, я адчуваў прыліў сіл. Над морам не было шчылін у аблоках, сьвятло здавалася на зьдзіўленьне шчыльным – верагодна, з-за атмасфэрнай электрычнасьці й слабога ветру. Я выйшаў з хаты й энэргічным трушком абабег выспу; затым прасачыў, як зьехала ў горад місіс Клэмп, і рушыў у тым жа кірунку, каб узьлезьці на вяршыню высокай выдмы ў некалькіх сотнях мэтраў ад выспы й агледзець у бінокаль зьнямоглую ад сьпёкі зямлю.

Як толькі я спыніўся, зь мяне паліў пот, і я адчуў, як зьлёгку загуло ў галаве. Я выпіў узятую з сабой ваду, пасьля зноў напоўніў пляшку ў бліжэйшым ручаі. Бацька безумоўна меў рацыю: авечкі сапраўды спаражняліся ў ручаі; але я быў упэўнены, што за гады будаўніцтва плацін пасьпеў выпрацаваць імунітэт да любой заразы зь мясцовых рэк. Выпіўшы больш вады, чым хацелася, я вярнуўся на грэбень выдмы. Удалечыні на траве ляжалі нерухомыя авечкі. Нават чайкі кудысьці зьніклі, і толькі мухі не зьніжалі актыўнасьці. Са сьметніка па-ранейшаму ўздымаўся дымок, яшчэ адзін струменьчык цёмна-блакітнага дыму курыўся у пагорках па-над тартаком, які пастаўляў драўніну цэлюлозна-папяроваму камбінату на беразе заліва. Я напружыў слых, спрабуючы распазнаць гудзеньне піларам, але нічога не пачуў.

Я вадзіў біноклем, разглядаючы паўднёвую панараму, як раптам убачыў бацьку. Перавёў бінокаль, пасьля ірвануў яго зваротна. Бацька зьнік, затым зьявіўся зноў. Ён быў на сьцежцы й накіроўваўся ў горад. Я глядзеў наўпрост на Трамплін і бачыў, як бацька ўзбіраецца на тую выдму, зь якой я любіў зьяжджаць на ровары. Калі я заўважыў яго ў першы раз, ён ужо дасягнуў грэбня Трампліна. Перад вяршыняй бацька спатыкнуўся, але здолеў утрымаць раўнавагу й кроку ня збавіў. Нарэшце яго кепка зьнікла за грэбнем. Мне здалося, што ён няцьвёрда трымаецца на нагах, зусім як п’яны.

Я апусьціў бінокаль ды пацёр падбародзьдзе, якое зьлёгку чухалася. Вельмі незвычайна. Бацька нічога не казаў пра тое, што зьбіраецца ў горад. Што б гэта значыла?

Я зьбег з выдмы, пераскочыў цераз ручай і на крэйсерскай хуткасьці кінуўся да хаты. Увайшоўшы праз заднія дзверы, я адчуў пах ўіскі. Я прыкінуў, як даўно мы вячэралі й калі зьехала місіс Клэмп. Гэта было каля гадзіны альбо паўтары гадзіны таму. Увайшоўшы ў кухню, дзе пах ўіскі адчуваўся асабліва моцна, я заўважыў на стале пустую бутэльку скотчу (молт), а побач ляжала на баку шклянка. Я пашукаў у ракавіне другую шклянку, але там была толькі груда брудных талерак. Я нахмурыўся.

Гэта было не падобна да майго бацькі: пакідаць нямыты посуд. Я падняў бутэльку з-пад ўіскі і паспрабаваў знайсьці на этыкетцы метку, зробленую шарыкавай ручкай з чорным стрыжнем, але не знайшоў. Значыцца, бутэлька была адкрыта толькі што. Я пахітаў галавой і выцер лоб рушніком для посуду. Зьняў камізэльку ды павесіў яе на сьпінку крэсла.

Я выйшаў у хол. Толькі зірнуўшы на лесьвіцу, я ўбачыў, што слухаўка зьнята з рычага й ляжыць побач з тэлефонам. Я ўзляцеў наверх, схапіў яе й прыклаў да вуха. Дзіўны шум. Павесіў слухаўку на рычаг, счакаў некалькі секунд, зноў зьняў і пачуў звычайны бесьперапынны гудок. Шпурнуў яе на месца і, адолеўшы яшчэ адзін лесьвічны пралёт, рынуўся да габінэта, павярнуў ручку ды навалiўся на дзьверы ўсёй вагой. Быццам улітыя.

«Д'ябал», – сказаў я. Карціна здарэньня была зразумелай, я толькі спадзяваўся, што бацька забыўся замкнуць габінэт. Напэўна, тэлефанаваў Эрык. Бацька ўзяў слухаўку, жахнуўся й вырашыў нажлукціцца. Потым высунуўся ў горад, хутчэй за ўсё, за дабаўкай. Альбо ў краму, альбо... – я зірнуў на гадзіньнік, – ці ня ў гэты ўік-энд адкрывалася забягалаўка «Роб Рой»? Я махнуў рукой: ды якая розьніца. Відаць, патэлефанаваў Эрык. Бацька ад засмучэньня заліў вочы. Цяпер вось накіроўваецца ў горад – альбо заліць яшчэ, альбо пабачыць Дыгза. Ці, можа, Эрык прызначыў сустрэчу. Не, наўрад ці; спачатку ён бы зьвязаўся са мной.

Я ўзьбег па сходах, у сьпёку й задуху гарышча, расчыніў акно зь відам на Вялікую Зямлю ды ўтаропіўся ў бінокаль на подступы да выспы. Спусьціўся, выйшаў з хаты, замкнуў дзьверы й кінуўся трушком праз мост і далей па сьцежцы, мімаходзь залазячы на кожную высокую выдму. Усё было як быццам у поўным парадку. Я спыніўся на месцы, дзе ў апошні раз бачыў свайго бацьку, на грэбні выдмы, што вяла да Трампліна. Я пачухаў пахвіну ў недаўменьні, разважаючы над найлепшым плянам дзеяньняў. Я адчуваў, што паступаю няправільна, пакідаючы выспу, але ў мяне было і адчуваньне: галоўныя падзеі, хутчэй за ўсё, пачнуць разьвівацца ў горадзе й ваколіцах. Я падумаў, ці не патэлефанаваць Джэймі, але той быў ня ў лепшай форме для таго, каб гайдацца ў пошуках бацькі па ўсім Портнэйле альбо вынюхваць, ці не запахне дзе падпаленай псінаю.

Я ўсеўся на сьцяжынку й паспрабаваў сабрацца з думкамі. Якім будзе наступны ход Эрыка? Ён можа пачакаць, пакуль сьцямнее, і падысьці да дому (а прыйдзе ён абавязкова, я ўпэўнены; не затым жа ён прайшоў такі шлях, каб у апошні момант адступіцца, ці ня так?), а мо падумае, што раз ужо рызыкнуў патэлефанаваць, то губляць яму ўсё роўна больш няма чаго, і адразу накіруецца да хаты. Але з тым жа посьпехам ён мог бы прыйсьці й учора. Дык што ж яго затрымала? Няйначай як штосьці задумвае. Ці я занадта рэзка зь ім размаўляў. Чаму я паклаў слухаўку? Ідыёт! Можа, ён зьбіраўся здацца альбо павярнуць назад! І ўсё таму, што я адштурхнуў яго – свайго брата!

Я сярдзіта патрос галавой і ўстаў. Усе гэтыя роздумы не прывялі мяне да нейкіх высноў. Варта было меркаваць, што Эрык выйдзе на сувязь. Значыць, я павінен вярнуцца дадому, куды ён альбо патэлефануе, альбо прыйдзе раней ці пазьней. Да таго ж дом быў цэнтрам маёй сілы, а таксама месцам, якое я павінен абараняць. Мне адразу стала лягчэй ад таго, што плян дзеяньняў прыняты – нават калі гэта быў плян бязьдзеяньня, – і я жвавым трушком прыпусьціў да хаты.

Пакуль мяне не было, у доме стала яшчэ больш душна.

Я расьцягнуўся у крэсьле на кухні, потым устаў вымыць шклянку й прыбраць бутэльку з-пад ўіскі. Я доўга піў памяранцавы сок, затым напоўніў збан сокам зь лёдам, узяў пару яблыкаў, паўбохана хлеба, сыр і перанёс усё на гарышча. Я ўзяў крэсла, якое звычайна стаяла ля Фабрыкі, і паставіў яго на плятформу, складзеную са старажытных энцыкляпэдый; адкрыў акно з выглядам на Вялікую Зямлю ды зрабіў падушку са старых, выцьвілых фіранак.

Я ўладкаваўся на сваім маленькім троне, узброіўся біноклем і стаў весьці назіраньне. Праз некалькі хвілін выцягнуў са скрыні з цацкамі стары лямпавы радыёпрымач у бакелітавым корпусе ды ўключыў яго ў другую разэтку цераз пераходнік. Злавіў «Радыё-тры», дзе перадавалі опэру Вагнэра; як раз тое, што трэба, вырашыў я й вярнуўся да слыхавога вакенца. У некалькіх месцах у воблачным покрыве зьявіліся дзіркі, аблокі павольна рухаліся, участкі ландшафту раптам аказваліся залітыя яркім, сьляпучым сьвятлом сонца. Часам сьвятло затаплівала дом; я назіраў, як нетаропка перамяшчаецца па крузе цень майго хлява па меры таго, як дзень хіліцца

да вечара, і сонца перасоўваецца па крузе за калматымі аблокамі. Новы жылы масіў на лясістай горцы за старымі портнэйльскімі кварталамі ляніва сэмафорыў вокнамі. Паступова адзін шэраг вокнаў пераставаў адлюстроўваць сьвятло, іншыя мала-памалу ўспыхвалі водблìскамі, дзенідзе суцэльны шэраг перарываўся выпадковымі дзіркамі адкрытых ці закрытых вокнаў альбо машынамі, што рухаліся па муніцыпальнай вуліцы. Я выпіў соку, утрымліваючы кубікі лёду ў роце, пакуль гарачы подых дому мякка абдзімаў мяне. Я працягваў вадзіць біноклем з боку ў бок, з поўдня на поўнач і зваротна, пашыраючы зону бачнасьці настолькі, наколькі гэта было магчыма, стараючыся ня вываліцца пры гэтым з вакна. Опэра скончылася, яе зьмяніла нейкая жахлівая сучасная музыка, нешта накшталт Ератыка-на-дыбе й Падпаленага Сабакі, але выключаць я ня стаў, паколькі сон яна адганяла спраўна.

Адразу пасьля паловы на сёмую зазваніў тэлефон. Я ўскочыў з крэсла, нырнуў у праём дзьвярэй з гарышча й скаціўся па лесьвіцы, сарваў слухаўку й падняў яе да рота адным плыўным рухам. Мяне нават гонар узяў – як добра ў мяне сёньня з каардынацыяй, і я больш-менш спакойна адказаў:

– Да?

– Фрэн … – прамямліў бацька, заікаючыся й глытаючы гукі. – Фрэн … гэт-ты?

Я адчуў, як пагарда прасочваецца ў мой голас:

– Так, тата, гэта я. Што табе?

– …Я ў г-горадзе, сынок, – ледзьве чутна прамовіў ён, быццам вось-вось зьбіраўся заплакаць. Я пачуў, як ён глыбока ўздыхнуў: – Фрэн… ведаеш, я заўсёды любіў цябе… тэлефаную… я… тэлефаную… прыходзь… прыходзь сюды, сынок. Яны злавілі Эрыка, сынок.

Я скамянеў. Утаропіўся на шпалеры над тэлефонным столікам. Расьлінны арнамэнт – зялёнае на белым, дзе-нідзе праглядвае нешта накшталт дубцоў. І прыклеены неяк крыва. Гэта ж трэба, ніколі не зьвяртаў увагі на гэтыя шпалеры, прынамсі ўсе тыя гады, што падыходзіў да тэлефона. Кашмарныя шпалеры. Як толькі бацьку собіла выбраць такія.

– Фрэн… – ён пракашляўся. – Фрэнк, сынок, – сказаў ён больш-менш выразна, але зноў сарваўся: – Фрэн… т-ты слухаеш? С-скажы што-небудзь. Гэта ж я. С-скажы што-небудзь. Я… я сказаў… яны з-злавілі Эрыка. Чуеш, сынок? Фрэн..?

– Я… – перасохлы рот даў асечку, і словы затрымаліся ў горле. Я пракашляўся й пачаў зноў: – Я ўсё чуў, тат. Яны злавілі Эрыка. Я чуў. Зараз выходжу. Дзе сустрэнемся, у паліцэйскім участку?

– Н-не, сынок, не… Давай ля біб… бібліятэкі. Так, ля бібліятэкі. Там і сустрэнемся.

– Бібліятэкі?! – перапытаў я. – Чаму там?

– Л-ладна, сынок… Да с-сустрэчы. Давай ху-хутчэй…

Пачуўся ляскат – напэўна, ён ня змог патрапіць на рычаг. Потым – адбой. Я павольна паклаў слухаўку, адчуваючы нешта вострае ў лёгкіх, гэта было адчуваньне сталёвага аскепка, які рухаўся з грукатам сэрца й галавакружэньнем.

Я пастаяў сэкунду-другую, затым падняўся на гарышча закрыць слыхавое вакно ды выключыць радыё. Раптам я зразумеў: мае ногі стаміліся й пабальвалі; бадай што, у гэтыя дні я крыху перастараўся.

Калі я ішоў у горад, прасьветы ў аблоках павольна рухаліся ў бок Вялікай Зямлі. Для паловы на сёмую было даволі цёмна, у расьсеяным сьвятле перасохлая зямля здавалася ахінутай змрокам. Некалькі птушак апатычна ўспырхнулі пры маім набліжэньні. Але бальшасьць птушак па-ранейшаму ўсейвала тэлефонныя драты, што йшлі на выспу па тонкіх слупах. Абрыдным басам бэлькалі авечкі, за імі тоненька паўтаралі ягняты. Птушкі сядзелі й крыху далей, на загарадзях калючага дроту, размаляваных бруднымі пучкамі авечай воўны. Ня гледзячы на ўсю ваду, якую я выпіў за дзень, мая галава зноў пачала тупа ныць. Я ўздыхнуў і працягнуў шлях. Выдмы паступова зьмяншаліся, вакол ляжалі неапрацаваныя палі й лысаватыя пашы.

Перад апошнім спускам я прысеў перадыхнуць, адкінуўся сьпінай на пясчаны пагорачак і змахнуў пот зь ілба. Строс кроплю поту з пальцаў, паглядзеў на нерухомых авечак і сонных птушак на дратах. Пачуўся гук званоў з горада, верагодна, з каталіцкага сабора.

А мо людзі даведаліся, што іх праклятыя сабакі ў бясьпецы. Я хмыкнуў, выдаў гук накшталт сьмяшку й глянуў па-над травой, высахлымі кустамі й пустазельлем на званіцу Шатляндзкай Царквы. Я амаль бачыў бібліятэку адсюль. Адчувалася, як скардзіліся на стому мае ногі, і я падумаў, што дарма зрабіў прывал. Толькі больш разбаляцца, калі рушу далей. Я цудоўна разумеў, чорт пабяры, што проста цягну час, гэтак жа як цягнуў з выхадам з дому пасьля бацькоўскага званка. Я азірнуўся на птушак, падобных да нотаў, намаляваныя ўздоўж тых жа дратоў, якія прынесьлі навіну. Я заўважыў: птушкі пазьбягалі садзіцца на адну з сэкцыяў паміж двума слупамі.

Я нахмурыўся, прыгледзеўся, зноў нахмурыўся. Машынальна пацягнуўся за біноклем, але дакрануўся толькі да тканіны футболкі: бінокаль застаўся дома. Я падняўся й пайшоў па перасечанай мясцовасьці прэч ад сьцежкі, паскорыў крок, патрухаў, затым ірвануў з усіх ног цераз пустазельле й трысьнёг; пераскочыў цераз агароджу й выбег на пашу; авечкі страпянуліся ды з жаласным бляяньнем кінуліся ўроссып.

Пакуль дабег да слупоў, зусім запыхаўся.

Лінія была парваная. Перарэзаны нядаўна дрот вылучаўся на фоне дрэва слупа на Вялікай Зямлі. Я паглядзеў угору, пераканаўся, што гэта ня глюк. Бліжэйшыя птушкі ўзьляцелі і, крычучы трывожнымі галасамі ў амаль нерухомым паветры, кружыліся над высьмяглай травой. Я зьбег да слупа, які стаяў на другім баку заліва, на высьпе. Да яго было прыбітыя кудлатае, чорна-белае, яшчэ крывацечнае вуха.

Я дакрануўся да яго й усьміхнуўся. Стаў ліхаманкава азірацца, але хутка супакоіўся. Павярнуўся тварам да горада, дзе сьвідраваў неба царкоўны шпіль, нібы абвіняльны палец.

«Ах ты, ілжывы вырадак», – выдыхнуў я й рушыў да высьпы, набіраючы хуткасьць, выключыўшы тармазы, гучна тупаючы па ўтаптанай сьцежцы, узьбег на Трамплін і пераляцеў цераз яго. Я выпусьціў радасны кліч і замоўк, вырашыўшы паберагчы дыханьне для бегу.

Я дабраўся да хаты пакрыты потам, узьбег на гарышча, спыніўшыся праверыць тэлефон.

Зразумела, лінія была мёртвая. На гарышчы я перш за ўсё расчыніў слыхавое вакно й хуценька агледзеў навакольле ў бінокаль, сабраўся, падрыхтаваўся, праверыў. Сеў на крэсла, уключыў радыё й працягнуў назіраць.

Ён быў дзесьці там. Дзякуй Богу за птушак. Мой страўнік радаваўся, гонячы па целе хвалю нястрымнай радасьці, я задрыжаў, нягледзячы на сьпёку. Ілжывае старое гаўно, ён спрабаваў выкінуць мяне з хаты, паколькі ён баяўся сустрэчы з Эрыкам. Божа, ну я й крэтын! – не пачуць падману ў ягоным п’яным голасе. І ў яго яшчэ хапае нахабнасьці чытаць мне лекцыі аб шкодзе алькаголю. Я хаця б п’ю, калі ведаю, што магу сабе гэта дазволіць, а не ў крытычнай сытуацыі, калі патрабуецца напружаньне ўсіх тваіх сіл. Бляха. І ён яшчэ называе сябе мужчынай!

Я зрабіў некалькі глыткоў зь яшчэ прахалоднага збана з сокам, зьеў яблык, крыху хлеба з сырам і працягнуў назіраньне. Сонца імкліва йшло на захад, аблокі зацягвалі неба й хуценька цямнела. Узыходзячыя паветраныя патокі, што прабілі днём праломы ў аблоках, уляргліся; пагоркі й раўніну зноў накрыла шчыльная коўдра, шэрая ды бясформенная. Я зноў пачуў гром, і ў паветры зьявілася нешта вострае й пагрозьлівае. Я сядзеў як на іголках і ўсё чакаў, што зазвініць тэлефон, хаця выдатна разумеў яго немагчымасьць. Колькі часу спатрэбіцца бацьку, каб зразумець, што я затрымліваюся? Ці ён думаў, я прымчуся на ровары? Упаў ён дзе-небудзь у канаву ці ўжо йшоў, хістаючыся, на чале гарадзкога апалчэньня, якое несла факелы й зьбіралася лінчаваць Забойцу Сабак?

Няважна. Нават пры такім сьвятле я бы ўбачыў любога й выйшаў бы, каб павітаць брата або ўцячы з дому й схавацца на высьпе, калі б наляцелі лінчавальнікі. Я выключыў радыё, каб пачуць магчымыя крыкі зь Вялікай Зямлі, і стаў сьвідраваць позіркам прыцемкі, з усіх сіл напружваючы зрок. Празь нейкі час спусьціўся ў кухню, сабраў сёе-тое зь ежы ды, вярнуўшыся на гарышча, спакаваў у палатняную торбу. На той выпадак, калі прыйдзецца выйсьці сустрэць Эрыка. Ён можа быць галодны. Я сеў на крэсла й зноў утаропіўся ў згусьцелую цемру. Удалечыні, на дарозе ля падножжа пагоркаў, мільгалі агні машын – нібы перасоўныя маякі, што раз-пораз хаваюцца за дрэвам, за вуглом, за пагоркам. Я пацёр вочы й пацягнуўся, спрабуючы стрэсьці стомленасьць з усяго цела.

Падумаўшы, я паклаў у торбу пачак болесуцішальнага. Пры такім надвор'і ў Эрыка можа пачацца мігрэнь, і яму спатрэбяцца лекі. Хацелася б, вядома, спадзявацца, што да гэтага ня дойдзе.

Я пазяхнуў, расплюшчыў вочы шырэй, зьеў другі яблык. Расплывістыя цені пад аблокамі зрабіліся яшчэ цямней.

Я прачнуўся.

Было цёмна. Я па-ранейшаму сядзеў у крэсьле, схіліўшы галаву на рукі, скрыжаваныя на жалезным карнізе слыхавога акна. Нейкі шум у доме разбудзіў мяне. Сэкунду я пасядзеў, адчуваючы, як калоціцца маё сэрца, а сьпіна пратэстуе супраць паставы, у якой ёй давялося быць так доўга. Па руках, здранцьвелых ад цяжару галавы, пабеглі мурашкі – крывяток аднаўляўся. Я крутануўся у крэсьле, рэзка й бясшумна. На гарышчы было цёмна хоць вока выкалі, але староньняй прысутнасьці не адчувалася. Крануў кнопку на гадзіньніку ды ўбачыў, што ўжо пачатак дванаццатай. Я праспаў некалькі гадзін. Ідыёт! Затым зьнізу пачуўся слабы шум: няясныя крокі, рыпеньне дзьвярэй, яшчэ нейкія гукі. Разьбілася шкло. Я адчуў, як валасы на патыліцы ўстаюць дыбарам – другі раз за тыдзень. Сьціснуўшы зубы, я скамандаваў сабе спыніць паніку й зрабіць што-небудзь. Гэта альбо Эрык, альбо бацька. Зараз спушчуся й высьветлю. Для надзейнасьці прыхаплю нож.

Я ўстаў з крэсла, асьцярожна накіраваўся ў бок дзьвярэй, намацваючы дарогу па няроўнасьцях цаглін трубы ад каміна. Спыніўся й выпусьціў футболку са штаноў, так яна прыкрывала прымацаваны да рамяня нож. Бясшумна спусьціўся на цёмную пляцоўку. У пярэднім пакоі гарэла сьвятло й адкідвала на сьцены вакол сходаў дзіўныя цені, жоўтыя й цьмяныя. Я падышоў да парэнчаў, зірнуў уніз. І нічога ня ўбачыў. Шум спыніўся. Я панюхаў паветра.

Я адчуў пах дыму й паба, пах выпіўкі. Значыць, бацька. Я адчуў палёгку. І тут ён выйшаў з гасьцёўні. За ім, накшталт рову акіяна, выплыў шум. Я адхіснуўся ад парэнчаў і натапырыў вушы. Бацька ледзь трымаўся на нагах, налятаў на сьцены, спатыкаўся аб прыступкі. Я чуў, як ён цяжка дыхаў і нешта мармытаў. Гукі й пахі набліжаліся. Я стаяў і пакрысе змог супакоіцца. Пачуў, як ён дабраўся да першай пляцоўкі, дзе стаяў тэлефон. Затым няцьвёрдыя крокі.

– Фрэн! – выкрыкнуў ён.

Я зьнерухомеў і не адгукнуўся. Інстынктыўна, мабыць, ці па звычцы – колькі разоў я рабіў выгляд, быццам мяне няма, і слухаў, як паводзяць сябе людзі, мяркуючы, што яны адны. Дыхаў я роўна.

– Фрэ-э-эн! – зароў ён.

Я падрыхтаваўся адступіць на гарышча, адышоў на дыбачках, пазьбягаючы месцаў, дзе, як я ведаў, падлога рыпела. Бацька загрукатаў у дзьверы прыбіральні на другім паверсе, потым вылаяўся, заўважыўшы, што яны не зачынены. Я пачуў, як ён пачаў падымацца па сходах да мяне. Крокі былі няроўныя, ён спатыкнуўся і, рохнуўшы, ударыўся аб сьцяну. Я нячутна падняўся па прыстаўной лесьвіцы, падцягнуўся й сеў на драўляную падлогу гарышча, затым лёг у мэтры ад праёма, трымаючыся рукамі за цагліны, гатовы нырнуць за трубу, калі бацька паспрабуе зазірнуць на гарышча. Я зажмурыўся. Бацька тым часам стаў біцца ў дзьверы майго пакоя. Адчыніў іх.

– Фрэнк! – зноў выкрыкнуў ён. Потым: – А-а... блядзь...

Сэрца маё так і падскочыла. Раней я ні разу ня чуў, каб бацька мацюкаўся. Зь ягоных вуснаў гэта гучала непрыстойна, зусім не будзённа, як у Эрыка ці Джэймі. Зь люка данеслася ягонае шумнае дыханьне, пахла тытунём ды ўіскі.

Зноў крокі, на гэты раз яны аддаляліся, затым з грукатам зачыніліся дзьверы яго пакоя. Я набраў поўныя грудзі паветра, толькі цяпер усьвядоміўшы, што дагэтуль затрымліваў дыханьне. Маё сэрца калацілася, быццам зьбіралася выбухнуць, і я амаль зьдзівіўся, чаму бацька не пачуў грукату скрозь дошкі падлогі. Я яшчэ крыху пачакаў, але ўсё было ціха, ня лічачы прыглушанага белага шуму з гасьцёўні. Ён гучаў, як быццам бацька пакінуў тэлевізар уключаным на прамежкавым канале, дзе нічога не прымаецца.

Я даў бацьку яшчэ пяць хвілін, затым ціха ўстаў, атросься, заштурхаў майку ў штаны, падняў сумку, засунуў за рэмень катапульту, намацаў у цемры камізэльку, пракраўся з усім сваім рыштункам на пляцоўку і, намагаючыся ступаць як мага мякчэй, спусьціўся ўніз.

Тэлевізар шыпеў і асьвятляў пустую гасьцёўню яркімі водбліскамі. Я падышоў і выключыў яго. Павярнуўся сыходзіць – і ўбачыў бацькоўскі цвідавы пінжак, які ляжаў камяком у крэсьле. Я падняў яго, і ў ім нешта дзынкнула. Зморшчыўшы нос ад смуроду тытуню й выпіўкі, што йшоў ад пінжака, я абмацаў кішэні. Рука самкнулася на зьвязку ключоў.

Я выцягнуў іх і пачаў вывучаць. Ключ ад парадных дзьвярэй, ад задніх дзьвярэй, ад склепа, ад хлява, пара незнаёмых мне ключоў паменш і яшчэ ключ да аднаго з пакояў дома, такі ж, як ад маёй спальні, але зь іншымі баразёнкамі. У мяне перасохла ў роце, рука з ключамі задрыжэла. На ёй выступіў пот – кропелькі ў складках далоні. Гэта альбо ключ ад яго спальні, альбо…

Я ірвануў наверх, пераскокваючы праз тры прыступкі запар, зьбіваючыся з рытму толькі дзеля таго, каб прапусьціць рыплівыя. Я прайшоў міма габінэта да спальні бацькі. Дзверы былі прыадчыненая, ключ у замку. Выразна даносіўся бацькоўскі храп. Я мякка зачыніў дзьверы й пабег да габінэта. Уставіў ключ у замок – і ён павярнуўся як па масьле. Вытрымаўшы сэкунду-другую, я крутануў ручку й адчыніў дзьверы.

Я ўключыў сьвятло. Габінэт.

Там было горача, душна й няма куды кроку ступіць. Лямпачка ў цэнтры столі была вельмі яркая й не давала ценяў. Два лабараторных стала, камода з шуфлядамі для захоўваньня папер і раскладанка, на якой ляжаў клубок мятых прасьцін. Там была кніжная шафа, два ссунутых разам лабараторных стала з масай бутэлечак і хімічнага абсталяваньня: склянкі, прабіркі й кандэнсатар, далучаны да ракавіны ў куце. Пахла чымсьці накшталт аміяку. Я павярнуўся, высунуў галаву ў калідор, прыслухаўся, улавіў вельмі аддалены храп, затым зачыніў дзьверы знутры, пакінуўшы ключ у замку.

Як толькі я павярнуўся, адразу ўбачыў яго. Сасуд для прэпаратаў стаяў на стале збоку ад дзьвярэй, якія прыкрывалі яго ад погляду з калідора. У сасудзе была празрыстая вадкасьць, мяркую, сьпірт. У сьпірце – малюсенькія зьнявечаныя мужчынскія геніталіі.

Я глядзеў на іх, не адымаючы рукі ад ключа ў дзьвярах, і да вачэй падступілі сьлёзы. Я адчуў камяк у горле, які падняўся аднекуль з глыбіні мяне, вочы ды нос хутка напоўніліся вадкасьцю – і прарвала. Я стаяў і рыдаў, сьлёзы сьцякалі па шчоках у рот, я адчваў іх салёны смак. З носа таксама лілося ракой, я чмыхаў ды верашчаў, грудзі хадзілі ходырам, на скулах рухаліся жаўлакі. Я забыўся й пра Эрыка, і пра бацьку – пра ўсё, акрамя сябе самога ды сваёй страты.

Прайшоў нейкі час, перш чым я ўзяў сябе ў рукі, прычым я не злаваўся на сябе, не казаў, што разрумзаўся, маўляў, горш за дзеўку, – не, я проста выплакаўся ды адчуў, што цяжар сышоў з галавы й цяпер асеў у жываце. Я выцер твар майкай, ціха высмаркаўся й пачаў метадычна абшукваць пакой, ігнаруючы сасуд на стале. Магчыма, гэта й адзіны тутэйшы сакрэт, але ў гэтым трэ было яшчэ пераканацца.

У асноўным там быў усялякі хлам. Халусьце ды хімікаты. Скрыні сталоў ламіліся ад старадаўніх фатаграфій і папер. Там былі старыя лісты, рахункі й запіскі, дакумэнты, бланкі, страхавыя полісы (аніводнага на маё імя, але ў любым выпадку яны былі даўно пратэрмінаваны), старонкі апавяданьня альбо рамана, аддрукаванага на разьдзёўбанай пішучай машынцы, з масай выпраўленьняў і ўсё роўна жудаснага (пра камуну нейкіх хіпі недзе ў пустыні й як яны ўступаюць у кантакт з прышэльцамі); там былі шкляныя прэс-пап'е, пальчаткі, значкі з псыхадэлічнай сымболікай, некалькі старажытных сінглаў «Бітлз», нумары «Oz» і «IT», асадкі з высахлым атрамантам ды зламаныя алоўкі. Сьмецьце, суцэльнае сьмецьце.

Потым я наткнуўся на замкнёную шуфляду: секцыя за адкідным вечкам з замочнай сьвідравінай уверсе. Я выцягнуў з дзьвярэй зьвязак ключоў, і, зразумела, адзін з маленькіх падышоў. Адкінуў дзьверцу, выняў чатыры скрыначкі й расставіў іх на стале.

Я глядзеў на іх зьмесьціва, пакуль ногі ня сталі ватовымі, і я вымушаны быў сесьці на хісткае крэселка, напалову засунутае пад стол. Я абхапіў твар далонямі, працягваючы дрыжаць. Колькі ўсяго яшчэ мне давядзецца пераажыць сёньняшняй ноччу?

Я запусьціў руку ў адну са скрыначак і выцягнуў адтуль блакітны пачак жаночых тампонаў. Дрыжачымі пальцамі ўскрыў другую скрыню. На ёй была этыкетка «Гармоны мужчынскія».

Унутры былі зусім маленечкія каробачкі, акуратна прамаркіраваныя па датах чорнай шарыкавай асадкай – на паўгода наперад. Другая каробка ў наступнай скрыні была пазнача-

ная «KBr», і скарачэньне здалося мне смутна знаёмым, але ўспамін быў у самай глыбіні сьвядомасьці. Астатнія дзьве скрыначкі былі шчыльна набітыя пачкамі банкнотаў па пяць і дзесяць фунтаў і цэлафанавыя пакеты з квадратнымі кавалачкамі паперы ўнутры. Але ў мяне ўжо не было сілаў ламаць галаву, што ўсё гэта значыла, мой мозг ліхаманкава пераварваў жахлівую думку, якая толькі што ў ім зьявілася. Я сядзеў, утаропіўшыся на скрынкі з адкрытым ротам, і думаў. На сасуд не глядзеў.

Я думаў аб гэтых яго руках, ледзьве пакрытых пушком, аб тонкіх рысах яго твару. Спрабаваў узгадаць выпадкі, калі бачыў бацьку голым па пояс, але ня змог успомніць аніводнага. Сакрэт. Быць гэтага не можа. Я патрос галавой, але ня здолеў пазбавіцца думкі. Энгус.

Агнэс. Пра ўсё тое, што адбылося, я ведаю толькі зь яго слоў. Паняцьця ня маю, наколькі можна давяраць місіс Клэмп і які кампрамат у іх быў адзін на аднаго. Але ня можа быць! Гэта настолькі жахліва, настолькі агідна! Я ўскочыў, гучна перакуліўшы крэселка. Схапіў пачак з тампонамі й скрыню з гармонамі, схапіў ключы, адчыніў дзьверы й кінуўся на другі паверх, сунуўшы ключы ў кішэню й агаліўшы нож.

– Фрэнк гэтага так не пакіне, – прашыпеў я скрозь зубы.

Я ўварваўся ў бацькоўскую спальню ды ўключыў сьвятло. Ён распластаўся на ложку, апрануты, у адным чаравіку. Другі валяўся прама пад нагой, што зьвісала з ложка. Бацька ляжаў на сьпіне й хроп. Вось ён варухнуўся, прыжмурыўся, паднёс руку да твару й адвярнуўся ад сьвятла. Я падышоў, адкінуў яго руку з твару й двойчы з сілай хвастануў па шчоках. Галава яго тузанулася, ён ускрыкнуў. Па чарзе расплюшчыў павекі. Я паднёс нож да яго вачэй, ён сфакусаваўся на клінку з п’янай недакладнасьцю. Страшэнна несла перагарам.

– Фрэн ... – стомлена вымавіў ён.

Я ткнуў яму ў твар нажом, спыніўшы лязо ў нейкім сантымэтры ад пераносься.

– Сука! – закрычаў я. – Што гэта такое? – І патрос перад ім скрынкамі з тампонамі й гармонамі.

Ён застагнаў і зажмурыўся.

– Гавары! – залямантаваў я й зноўку яму гвазданўў, цяпер тыльным бокам рукі, у якой быў нож.

Ён паспрабаваў перакаціцца па ложку да адкрытага акна, але я ўтрымаў яго на самай мяжы душнай ночы.

– Не, Фрэнк, не, – прамямліў ён, матляючы галавой і спрабуючы адштурхнуць мае рукі. Я кінуў пакаваньні й моцна схапіў яго за локаць. Падцягнуў да сябе, прыставіў нож да яго горла.

– Ты мне раскажаш альбо, бачыць Бог...

Не дагаварыўшы, я адпусьціў яго руку й пачаў расшпільваць рэмень на яго штанах. Бацька паспрабаваў нязграбна супраціўляцца, але я ляпнуў яму па руках і зноў ускінуў нож да горла. Гледзячы яму ў вочы, я расшпіліў маланку на прарэсе, спрабуючы ня думаць пра тое, што я там знайду ці не знайду. Адшпіліў гузік над маланкай, вырваў хвасты кашулі, рыўком прыспусьціўшы штаны. А ён ляжаў на ложку, глядзеў на мяне чырвонымі, сьлязьлівымі вачыма й матляў галавой:

– Фрэнкі, ты шт… што задумаў? Прабач, мне сарп… сапраўды вельмі ш-шкада, вельмі. Гэта проста экс-спэ-пэрымэнт. Проста экс-спэрымэнт... Ня трэба... Фрэнкі... прашу...

– Ты, сука! Сука! – роў я, адчуваючы, што ў мяне ўсё паплыло перад вачыма й задрыжаў голас. І, тузануўшы што было сілы, я спусьціў зь яго (зь яе) майткі.

Нешта загарлапаніла па-за домам, у ночы за вакном. Я стаяў і глядзеў на татаў вялікі ды, прызнацца, ня вельмі чысты чэлес, на яйкі ў цёмных валасах, а за вакном чуўся дзікі лямант нейкай жывёлы. Ногі ў бацькі калаціліся дробнымі дрыжыкамі. І тут успыхнула сьвятло – чырвоныя бліскаўкі – там, дзе ніякага сьвятла быць не павінна, звонку, над выдмамі, і яшчэ крыкі, віскі, бляяньне – здавалася, з усіх бакоў.

– Госпадзе Ісусе, гэта яшчэ што такое? – выдыхнуў бацька, павярнуўшы да акна дрыготкую галаву. Я зрабіў крок назад да акна ля падгалоўя ложка. Сьвятло й выцьцё, здавалася, набліжаліся з боку выдмаў. Жаўтаватая дымная зарніца скакала над вялікай выдмай за домам, там, дзе была Зямля Чэрапа. Гук быў падобны да таго, што выдаваў падпалены

сабака, толькі мацней і іншага тону, гук паўтараўся й паўтараўся. Сьвятло станавілася ярчэй, нейкая істота выскачыла на грэбень вялікай выдмы й, палаючы й крычучы, панеслася ўніз па схіле, што глядзіць на мора. Гэта была авечка, за ёй рушылі ўслед і іншыя. Спачатку дзьве, затым яшчэ паўтузіна жывёлін пранеслася галопам па траве й пяску. Яшчэ імгненне – і падпаленыя авечкі рассыпаліся па ўсім схіле; агорнутыя полымем, яны ачмурэла бэлькалі, скакалі, не разьбіраючы дарогі, пакідаючы за сабой вогненны сьлед там, дзе занялася трава.

І тут я ўбачыў Эрыка. Хістаючыся, да мяне падышоў бацька, але я глядзеў толькі на худога абадранца, што прытанцоўваў на верхавіне выдмы. У адной руцэ ў яго быў велізарны падпалены факел, у другой – сякера. І ён таксама лямантаваў што ёсьць моцы.

– О, Божа, толькі ня гэта, – прамовіў бацька. Я павярнуўся да яго. Ён нацягваў штаны. Я ірвануў міма яго да дзьвярэй.

– За мной! – крыкнуў я яму на хаду й выскачыў з пакоя, зьляцеў уніз па ўсходах, ня гледзячы, пабег ён за мной ці не. Я бачыў полымя ва ўсіх вокнах, чуў пранізьлівы лямант авечак вакол дома. Дабраўшыся да кухні, я падумаў, ці не прыхапіць заадно й вады, але вырашыў, што зараз гэта будзе бескарысна. Я пераскочыў ганак і выбег у сад. І ледзьве не сутыкнуўся з авечкай, поўсьць на якой гарэла толькі ля хваста; яна сiганула цераз палаючы сад, зь дзікім бэльканьнем шарахнулася ад дзьвярэй і ў апошні момант пераскочыла цераз нізенькую агароджу ў сад перад домам. Я абабег заднюю частку дому ў пошуках Эрыка.

Паўсюль былі авечкі, усюды – агонь. Палала трава на Зямлі Чэрапа, языкі полымя лізалі хлеў, кусты, кветкі й дрэвы ў садзе; мёртвыя, падпаленыя жывёлы валяліся ў лужынах барвовага агню, а яшчэ жывыя мітусіліся туды-сюды, гартанна стагналі й лямантавалі сваімі нізкімі, надарванымі галасамі. Эрык быў на прыступках, што вялі ў склеп. Я ўбачыў факел, якім ён раней размахваў, – полымя міргала на фоне сьцяны дома пад акенцам туалета. Эрык атакаваў дзьверы склепа сякерай.

– Эрык! Стой! – залямантаваў я. Кінуўся было наперад, але перадумаў, рэзка разгарнуўся і, зазірнуўшы за кут, на ганак з расчыненымі дзьвярыма, крыкнуў: – Тат! Бяжы з дома! Тат!

З-за сьпіны даносіўся грукат дошак, што разьляталіся на трэскі. Я павярнуўся назад і пабег да Эрыка. Пераскочыў цераз дымлівы труп авечкі перад прыступкамі лесвіцы ў склеп. Эрык азірнуўся й замахнуўся на мяне сякерай. Я скокнуў убок. Прызямліўся й тут жа ўскочыў на ногі, гатовы адскочыць, але Эрык ужо зноў крышыў дрэва, пранізьліва павіскваючы пры кожным волатаўскім удары, быццам ён сам быў гэтымі дзьвярыма. Лязо сякеры прайшло наскрозь і затрымалася; Эрык паварушыў сякерышча й вызваліў інструмэнт, пакрывіўся ў мой бок і працягнуў секчы. У сьвятле факела яго цень падаў проста на мяне; факел быў прыстаўлены да дзьвярэй, і я бачыў, як пузырылася сьвежая фарба. Я выцягнуў катапульту. Дзьверы ўжо ледзьве трымалася. Бацька так і не паказаўся. Эрык зноў азірнуўся на мяне й абрынуў сякеру на дзьверы. Пакуль я шукаў жалязяку, за сьпінай раздаўся авечы лямант, зусім блізка. Вакол трашчэла полымя, пахла смажаным мясам. Мэталічны шар лёг у гумку, і я прыцэліўся.

– Эрык! – зароў я, і тут дзьверы саступілі яго націску.

Не выпускаючы сякеры, свабоднай рукой ён згроб факел; трэснуў па дзьвярах нагой, і тыя паваліліся. Я нацягнуў гумку на апошні, галоўны сантымэтар. Зірнуў на Эрыка ў прыцэле жалезных рагоў. Ён кінуў позірк на мяне. Яго твар, мурзаты, зарослы барадой, здаваўся маскай нейкага жывёлы. Гэта быў хлопчык, юнак, якога я ведаў, і ў той жа час цалкам іншы чалавек. Ён усьміхаўся ад вуха да вуха, скасавурыўшы вочы, сьцякаючы потам, цяжка дыхаючы грудзьмі ў такт пульсацыі полымя. У яго была сякера й факел, а за ім ляжалі разьнесеныя ў трэскі дзьверы склепа. У праёме цьмяна віднеліся цюкі з порахам, цёмна-аранжавыя ў сьвятле агню факела ў руцэ брата. Эрык зьбянтэжана пазіраў на мяне, быццам чакаючы чагосьці.

Я павольна пакруціў галавой.

Ён зарагатаў, кіўнуў і ці то выпусьціў, ці то шпурнуў факел ў склеп, пасьля чаго ірвануў да мяне.

Я ледзьве ня стрэліў ва ўпор, убачыўшы ў прыцэле рагаткі, што Эрык бяжыць да мяне, але ў апошні момант, перад тым як расьціснуць пальцы, я заўважыў, як ён выпусьціў сяке-

ру; тая бразнулася на каменныя прыступкі. Калі Эрык прабягаў міма мяне, я прыгнуўся й нырнуў убок. Азірнуўшыся, я ўбачыў, як Эрык уцякае праз сад у паўднёвым кірунку. Я зьбег па прыступках і схапіў факел. Той ляжаў літаральна ў мэтры ад дзьвярэй, далёка ад цюкоў. Як мага хутчэй я выкінуў яго на вуліцу – у той самы момант, калі ў палаючым склепе пачалі выбухаць бомбы.

Грукат быў аглушальны, над галавой са сьвістам праляцела шрапнэль, у доме вынесла вокны, а хлеў разьнесла на кавалачкі; некалькі бомбаў выляцелі зь яго й выбухнулі недзе ў садзе – але, на шчасьце, усе далёка ад мяне. Калі небясьпека нарэшце мінула й я падняў галаву, то хлеў быццам зьлізала, усе авечкі загінулі або ўцяклі, а Эрыка й сьледу няма.

Бацька сядзеў на кухні зь вядром вады й апрацоўчым нажом. Калі я ўвайшоў, ён паклаў нож на стол. Здавалася, ён пастарэў адразу гадоў на сто. На стале стаяў сасуд з габінэта. Я сеў на чале стала, зваліўшыся ў крэсла. Зірнуў на бацьку.

– Тат, там ля дзьвярэй быў Эрык, – сказаў я й засьмяяўся. У маіх вушах зьвінела пасьля выбухаў у хляве.

Бацька выглядаў старым і прыдуркаватым, тупа ўтаропіўся на мяне вільготнымі й выцьвілымі вачыма, яго рукі дрыжалі. Я патроху супакоіўся.

– Што... – пачаў ён і закашляўся. – Шт... што здарылася? – спытаў ён амаль цьвярозым голасам.

– Ён спрабаваў прабрацца ў склеп. Напэўна, зьбіраўся нас падарваць. Цяпер уцёк. Я, як мог, паставіў дзьверы на месца. Агонь амаль увесь патух, так што гэта, – я кіўнуў на вядро вады, – ужо не спатрэбіцца. Сядзь-ка лепш і растлумач мне некаторыя непаразумелкі. – Я адкінуўся на сьпінку крэсла.

Ён паглядзеў на мяне, падняў сасуд з прэпаратам, але ён высьлізнуў зь яго пальцаў, упаў на падлогу й разьбіўся. Ён нэрвова расьсьмяяўся, нагнуўся й выпрастаўся, трымаючы тое, што раней было ўнутры сасуда. Ён паказаў мне гэта, але я глядзеў яму ў твар. Бацька сьціснуў далонь, потым зноў раскрыў яе нібы фокуснік. Ён трымаў ружовы шарык. Не яечка, а ружовы шар, падобны да кавалку плястыліну ці воску. Я паглядзеў у яго вочы.

– Расказвай, – вымавіў я.

І ён расказаў.

**12: Што здарылася са мной**

Аднойчы я забраўся далёка на поўдзень, далей нават новых дамоў, і будаваў там плаціны сярод пяскоў і азёраў у камянях той часткі ўзьбярэжжа. Гэта быў цудоўны, спакойны й ясны дзень. Паміж небам і морам не было мяжы, любы дымок падымаўся строга вертыкальна. На моры быў штыль.

Недалёка, на схіле пагорка, дзе-нідзе зелянелі лугі. На адным з іх пасьвіліся некалькі кароў і два вялікіх гнядых каня. Пакуль я будаваў, па дарозе каля поля праехаў грузавік. Ён спыніўся ля варот і разьвярнуўся кузавам у мой бок. Я бачыў у бінокаль, як гісторыя разгортвалася ў паўмілі ад мяне. З кабіны выбраліся двое. Адкрылі заднюю частку грузавіка й зрабілі нахільны памост ад зямлі ў кузаў, паставілі драўляныя стойкі, зь якіх атрымалася агароджа абапал насьцілу. Коні падышлі паглядзець.

Я стаяў у сваіх велінгтонах па калена ў вадзе, адкідаючы на яе рабы цень. Мужчыны зайшлі на выган і вярнуліся з адным з коней, накінуўшы таму на шыю вяроўку. Конь пакорліва йшоў за імі, але калі мужчыны паспрабавалі завесьці яго ў грузавік па памосту між рашотак, ён захваляваўся й заўпарціўся, падаўся назад. Другі конь прытуліўся да агароджы знутры. Праз сэкунду-другую ў нерухомым паветры разьнеслася гучнае ржаньне. Некаторыя каровы ляніва касавурыліся на грузавік і працягвалі жаваць.

Маленечкія хвалі, празрыстыя складкі сьвятла з ціхім плёскатам праглынулі пясок, каменьне, водарасьці й ракавінкі за маёй сьпінай. У цішыні пракрычала птушка. Мужчыны адагналі грузавік далей і павялі каня сьледам. Конь на полі іржаў і бессэнсоўна бегаў кругамі. Мае рукі й вочы стаміліся, я адвёў позірк на поўнач, дзе ўзгоркі й горы зьнікалі ў яркай смузе. Калі я зноў глянуў на выган, конь быў ужо ўнутры грузавіка.

Крыху пабуксаваўшы, грузавік паехаў. Самотны разгублены конь скакаў ад брамы да агароджы й зваротна, спачатку за грузавіком, потым ад яго. Адзін з мужчынаў застаўся на полі разам з канём, і калі грузавік зьнік за ўзгоркам, ён супакоіў жывёлу.

Пазьней па дарозе дадому я прайшоў побач з полем, дзе застаўся конь, ён спакойна скуб траву.

І вось, сьвежай і ветранай нядзельнай раніцай, сяджу я на выдме над Бункерам і ўспамінаю, як учора сасьніў гэтага каня.

Пасьля таго як бацька расказаў мне тое, што павінен быў, і я, пераадолеўшы нявер'е й лютасьць, прыняў гэтую ашаламляльную праўду, пасьля таго, як мы абышлі сад, выкрыкваючы імя Эрыка, прыбіраючы сьмецьце, гасячы невялікія вогнішчы, пасьля таго як мы забарыкадавалі дзьверы склепа й вярнуліся ў дом, бацька расказаў мне, чаму зрабіў тое, што зрабіў, – і мы ляглі спаць. Я замкнуў на ключ дзьверы свайго пакоя, упэўнены, і ён замкнуў свой. Мне прысьніўся сон, у якім я зноўку перажыў тую гісторыю з коньмі; прачнуўся я рана й адправіўся на пошукі Эрыка. Выходзячы, я бачыў Дыгза, які ехаў па дарожцы. Бацьку многае прыйдзецца растлумачыць. Я пакінуў іх сам-насам.

Распагодзілася. Ні ветру, ні грому, ні маланак, толькі заходні вецер гнаў усе аблокі да мора, а разам зь імі й гэтую жудасную сьпякоту. Падобна на цуд, хаця больш верагодна гэта проста антыцыклон з Нарвегіі.

Так што было ясна й халаднавата.

Эрыка я знайшоў на выдме над Бункерам; ён спаў, па-дзіцячы скруціўшыся абаранкам, прымяўшы галавой траву. Я падняўся да яго, моўчкі пасядзеў побач, затым вымавіў ягонае імя, лёгенька стукнуў па плячы. Ён прачнуўся, паглядзеў на мяне й заўсьміхаўся.

– Прывет, Эрык, – сказаў я.

Ён працягнуў мне руку й я паціснуў яе. Ён кіўнуў, не перастаючы ўсьміхацца. Потым лёг ямчэй, прыладзіў сваю кучаравую галаву ў мяне на каленях, заплюшчыў вочы ды зноў заснуў.

Я ня Фрэнк Лэсьлі Колдхэйм. Я Фрэнсіс Лэсьлі Колдхэйм. Вось да чаго ўсё зводзіцца, калі сьцісла. Тампоны й гармоны прызначаліся мне.

Апранаючы Эрыка ў сукеначкі, бацька, як высьветлілася, усяго толькі рэпэтаваў. Калі мяне пакусаў Стары Сол, бацька ўбачыў у гэтым ідэальную магчымасьць для пастаноўкі маленькага экспэрымэнту й спосаб зьменшыць – а магчыма й цалкам выключыць – жаночы ўплыў на яго. Таму ён пачаў шпігаваць мяне мужчынскімі гармонамі, чым і займаўся дагэтуль. Вось чаму ён заўсёды сам гатаваў ежу, а тое, што я лічыў агрызкам чэлеса, было насамрэч павялічаным клітарам. Адсюль мая бародка, адсутнасьць менструацый і ўсё астатняе.

А тампоны ён трымаў у сябе на працягу апошніх некалькіх гадоў на той выпадак, калі мае ўласныя гармоны возьмуць верх над тымі, якімі ён мяне карміў. Брамід быў для прадухіленьня палавой цягі, якая ўзьнікала ад залішніх андрагенаў. Ён зрабіў фальшывыя мужчынскія геніталіі з таго ж васковага набору, які я знайшоў пад лесьвіцай і задзейнічаў для вырабу сьвечак. Ён плянаваў прадэманстраваць мне сасуд з прэпаратам, калі я пачну пытацца, ці сапраўды я быў кастрыраваны. Чарговы доказ; чарговая хлусьня. Нават ягоныя ідэі наконт бзьдзёхаў былі ашуканствам; проста яны з Дунканом-бармэнам даўнія прыяцелі, і бацька частуе яго выпіўкай у абмен на інфарматыўны званок пасьля кожнага майго візыту ў «Колдхэйм-армз». Нават цяпер я не магу быць упэўнены, што бацька сказаў мне ўсё, хаця ноччу, здавалася, яго ахапіў спавядальны сьверб і ў вачах стаялі самыя сапраўдныя слёзы.

Думаючы пра яго, я адчуваю, як ува мне зноў закіпае злосьць, але я змагаюся зь ёй. Я хацеў яго забіць там жа на месцы, на кухні, пасьля таго як ён распавёў і пераканаў мяне. Частка мяне хоча верыць, быццам гэта – ягоная чарговая хлусьня, але на самай справе я ведаю – гэта праўда. Я – жанчына. Сьцёгны ў шрамах, вялікія палавыя вусны крыху пажаваныя, і я ніколі ня буду прывабнай, але, калі верыць бацьку, я цалкам нармальная жанчына, здольная як да палавога акту, так і да дзіцянараджэньня (мяне трасе ад адной думкі пра тое й пра другое).

Я гляджу на мігценьне мора, адчуваю галаву Эрыка ў сябе на каленях і зноў думаю пра таго беднага каня.

Паняцьця ня маю, што зараз рабіць. Заставацца тут я не магу, а думка пра адʼезд палохае. Але зьехаць, пэўна, усё ж такі прыйдзецца. Вось засада. Магчыма, я падумаў бы пра самагубства, калі б некаторыя сваячкі ня вызначыліся ўжо на гэтым шляху, ды так, што цяжка цягацца.

Я апускаю позірк на Эрыка: ціхага, бруднага, спячага. Твар яго бестурботны. Ён не адчувае болю.

Некаторы час я гляджу на невялічкія хвалі, якія накатваюць на пляж. На мора, на вадзяную лінзу, дваякавыпуклую й раскалыханую, што рухаецца вакол зямнога шара; гляджу на хвалістую пустыню, якая бывае плоскай, як саляное возера. У другіх месцах геаграфія інакшая: мора бурліць, хвалюецца й паказвае нораў, зьбіраецца ў складкі, калі падзьме сьвежы брыз, і падымаецца пагоркамі, калі мацнеюць пасаты, і ў рэшце рэшт устае на дыбы горнымі ланцугамі сьнежнай пены, варта толькі ветру разагнацца да штармавога.

Там, дзе я зараз сяджу, дзе мы сядзім, і ляжым, і сьпім, і глядзім на цёплы летні дзень, сьнег выпадзе толькі праз паўгода. Лёд і мароз, наледзь ды іней, віскатлівы вецер, народжаны ў Сібіры, які праляцеў над Скандынавіяй і Паўночным морам, шэрыя воды сьвету й сівое паветра нябёсаў накладуць на нашыя месцы сваю халодную лапу, часова прысвояць іх сабе.

Мне хочацца і сьмяяцца, і плакаць, ці тое й другое адразу, а я сяджу ды думаю аб маім адзіным жыцьці й маіх трох сьмерцях. У некаторым сэнсе чатырох, паколькі бацькава прызнаньне забіла таго, кім я быў.

Але ж я – па-ранейшаму я; я – тая ж асоба, з тымі ж успамінамі ды ўчынкамі, з тымі ж (невялікімі) дасягненьнямі й тымі ж (жахлівымі) злачынствамі ў паслужным сьпісе.

Чаму? Як я мог учыніць такое?

Магчыма, справа ў тым, што я меркаваў, быццам пазбавіўся самага каштоўнага ў сьвеце: прычыны й спосабу працягу нашага існаваньня як віду, – прычым пазбавіўся перш, чым пазнаў яго каштоўнасьць. Магчыма, кожны раз я забіваў з пачуцьця помсты, раўніва караючы адзіным даступным мне спосабам тых, хто наблізіўся да мяне, тых, хто іначай стаў бы тым, кім мне стаць не наканавана, – дарослым.

Пазбаўлены, можна сказаць, адной волі, я сфабрыкаваў другую; каб залізаць уласную рану, я зрэзаў іх пад корань, адплачваючы ў сваёй гнеўнай нявіннасьці за кастрацыю, якую я тады ня мог належным чынам ацаніць, але нейкім чынам – верагодна праз стаўленьне іншых – адчуваў як несправядлівую, непапраўную страту. Ня маючы ані мэты ў жыцьці, ані здольнасьці да працягу роду, я паставіў усё на іх змрочную супрацьлегласьць і такім чынам адкрыў для сябе адмаўленьне пладавітасьці, на якую маглі прэтэндаваць іншыя. Мабыць, я вырашыў, што раз ніколі не змагу стаць мужчынам, то, пазбаўлены прыроднай мужнасьці, пераўзыду навакольных у мужнасьці набытай, – і так я стаў забойцам, маленькім падабенствам бязьлітаснага салдата й героя, да якога ўся вядомая мне літаратура й кінэматограф ставяцца са сьвяшчэнным трымценьнем. Я знаходзіў або вырабляў уласныя прылады забойства, мае ахвяры прыйшлі ў гэты сьвет нядаўна ў выніку адзінага акту, на які я ня быў здольны; роўныя мне ў тым плане, што хоць і валодаюць усім неабходным інструмэнтарыем, але ў цяперашні час ажыцьцявіць гэты акт здольныя ня больш майго. Вось вам і зайздрасьць да пэніса.

А цяпер аказалася – усё дарма. Не было неабходнасьці для помсты, была толькі хлусьня, хітрык, які трэ было разгадаць, камуфляж, скрозь які я павінен быў прабрацца, але ў фінале не пажадаў. Я ганарыўся сабой: еўнух, але ўнікальны; люты, высакародны абаронца сваёй зямлі, рыцар-інвалід, прынц, які ўпаў...

А зараз выходзіць, што я быў круглым дурнем.

Верачы ў сваю вялікую траўму, у літаральную адлучанасьць ад усяго «мацерыковага» грамадзтва, я глядзеў на сваё жыцьцё занадта сурʼёзна, а на жыцьці іншых, па нейкіх прычынах, празмерна лёгка. Забойствы былі маім зачацьцем, маім сэксам. Фабрыка была спробай сканструяваць жыцьцё, зымітаваць ўзаемаадносіны са сьветам, які я пазьбягаў.

Што ж, у сьмерці дамагчыся посьпеху заўсёды лягчэй.

Унутры гэтай машыны вышэйшага парадку ўсё ня так нарэзана ды засушана (ці нарэзана ды засолена), як у маім досьведзе. Кожны з нас можа верыць, нібыта ў яго асабістай Фабрыцы ён трапіў у калідор і лёс яго вырашаны й пазначаны (сон ці кашмар, звычайны ці дзіўны,

добры ці дрэнны), але слова, погляд ці памылка – што заўгодна – можа цалкам яго зьмяніць і нашу мармуровую залуператварыць у сьцёкавую канаву, наш пацучыны лабірынт – у залаты шлях. Канчатковы пункт ва ўсіх адзін і той жа, але падарожжа – напалову абранае, напалову наканаванае – у кожнага рознае й зьмяняецца, пакуль мы жывем і расьцем. Я думаў, мая пастка зачыніліся за мной шмат гадоў таму, але аказваецца, увесь гэты час я толькі поўзаў па цыферблаце. Дзьверы закрываюцца зараз, і маё падарожжа пачынаецца.

Я зноў пераводжу позірк на Эрыка, усьміхаюся, ківаючы сваім думкам, адчуваючы на твары сьвежы ветрык, у той час як прыбой шуміць, пеняцца хвалі, шапаціць трава й пераклікаюцца птушкі. Мабыць, прыйдзецца распавесьці яму, што са мной здарылася.

Бедны Эрык так ірваўся дадому пабачыць брацiка – і раптам высьвятляецца (Трах! Бабах! Прарыў плацiны! Бомба за бомбай! Восы гараць: пш-ш-ш-ш!), што ў яго ёсьць сястрычка.

***Пераклаў з ангельскае мовы Віталь Латыш.***
***Паводле выданьня THE WASP FACTORY Iain Banks, Abacus, 1987, ISBN 0349102145***